Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 10 (4861) 11 сакавіка 2016 г.



Штогадовы сімвал прыходу вясны, цяпла і прыроднага абуджэння, праява народнай шчодрасці і адкрытасці — Масленіца. Гэтае свята адзначаецца як у Беларусі, так і шмат у якіх краінах Еўропы. Бярэ свой пачатак з глыбокай старажытнасці і славіцца шматлікімі абрадамі, прыметамі, а галоўнае — надзвычай смачнымі рэцэптамі румяных бліноў, якія, калі верыць продкам, увасабляюць сонца. Прадуктамі на стале ў шчодрых гаспадароў падчас святочнага тыдня павінны быць таксама сыр, масла, смятана, мёд, варэнне — словам, усё, што можа паслужыць дадаткам да галоўнай духмянай стравы.

Масленіца (яна ж Маслёна, Сырніца) пачалася 7 сакавіка і працягнецца да канца тыдня, скончыўшыся якраз перад Вялікім постам. Нягледзячы на тое, што свята бярэ свой пачатак у паганстве, з часам яно набыло хрысціянскія рысы. Праваслаўныя лічаць, што падчас Масленіцы трэба прасіць у родных і блізкіх прабачэння, абавязкова сустрэцца з усімі, каго даўно не бачылі. Гасціннасць беларускага народа праяўляецца напоўніцу — падчас святочных сямейных пасядзелак з разнастайнымі пачастункамі і вясёлых вулічных гулянняў. Дарэчы, апошнія ў многіх сёлах і мястэчках Беларусі суправаджаюцца вясёлым катаннем на санках, песнямі і танцамі, гульнямі ў карнавальных касцюмах, карагодамі, актыўным кірмашовым гандлем. У апошні дзень (Даравальная нядзеля) спальваецца саламянае пудзіла Масленіцы. Згодна з павер'ямі, гэта абуджае прыродныя сілы і адпуджвае ўсе непрыемнасці. Попел, які атрымаўся пасля абраду, рассыпаюць па палях на добры ўраджай. Дарэчы, кожны дзень Масленіцы лічыцца асаблівым — так, у вызначаны час трэба пачынаць хадзіць у госці і шчыра вітаць гасцей у сваёй хаце.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Сустракайце вясну!


Фота Кастуся Дробава.

*Святкаванне Масленіцы ў г. Глыбокае (фота з архіва «ЛіМа»).*



# Народу. Ад шчырага сэрца

**Што для нас можа быць заўсёды прыемным, незалежна ад настрою ці стану душы? Добры падарунак! А калі падарунак настолькі каштоўны, што кошт яго нават уявіць сабе цяжка? Бо гэта даніна павагі не аднаму чалавеку — цэламу народу. Краіне, якая завецца Беларусь…**

Выстаўка «Шматвектарнасць знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь» адкрылася ў Музеі сучаснай беларускай дзяржаўнасці і — чакае кожнага з нас! Мы маем цудоўны шанц пабачыць прадметы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, сувеніры і ўзнагароды, падораныя і ўручаныя Прэзідэнту, ураду і народу Беларусі лідарамі іншых дзяржаў, гэтаксама — дыпламатамі, грамадскімі дзеячамі і арганізацыямі з самых розных куткоў свету. Цікавостак не злічыць. Прыкладам, многія экспанаты з краін Азіі і Лацінскай Амерыкі выстаўлены для агляду ўпершыню. Вось адно з апошніх паступленняў калекцыі — крыштальная ваза ручной працы як памяць пра наведванне Беларусі Жэрарам Дэпардзьё. Значная колькасць экспанатаў — падарункі расійскіх дэлегацый…

А вось і дары Таджыкістана, якія сёння — госць нумара. Яны ў музеі таксама ёсць. І не менш значныя для жыхароў нашай краіны.

**Іна ЛАЗАРАВА**

***На здымку:** дэкаратыўнае пано — падарунак ад таджыкскага народа міністру культуры Рэспублікі Беларусь Барысу Святлову.*

Працяг тэмы на стар. 3-9

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Беларусі Уладзіміра Гасцюхіна з юбілеем. «Шчырасць і пранікнёнасць створаных Вамі сцэнічных і экранных вобразаў блізкія мільёнам людзей. Ужо з першых спектакляў праявіліся Ваш яркі артыстычны талент, высокі прафесіяналізм і імкненне да сцвярджэння духоўных ідэалаў. Цёпла прымаюць гледачы і вашы рэжысёрскія работы ў тэатры і кіно», — гаворыцца ў віншаванні. Прэзідэнт адзначыў, што праўдзівасць, жыццесцвярджальная сіла і сапраўдны гуманізм творчасці Уладзіміра Гасцюхіна сёння асабліва важныя ў справе выхавання падрастаючага пакалення.

✔ Прэзідэнт Беларусі павіншаваў народную артыстку Расіі Алену Якаўлеву з юбілеем. «Яркія работы ў тэатры і кіно прынеслі Вам заслужаную павагу прафесіяналаў і любоў шырокай публікі. Вы ўмееце ствараць выразныя, запамінальныя вобразы, паказаць глыбіню характараў персанажаў», — гаворыцца ў віншаванні. Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што ў Беларусі Алену Якаўлеву ведаюць і высока цэняць як таленавітую актрысу, якая працуе ў розных жанрах.

✔ Прэзентацыя перасоўнага выставачнага праекта «Беларусь і беларусы» адбылася ў Будапешце, у Пасольстве Беларусі ў Венгрыі. Выстаўка знаёміць з асноўнымі этапамі гістарычнага развіцця, культурнымі здабыткамі нашай краіны. Экспазіцыя складаецца з мабільных канструкцый, дзе размешчаны тэматычныя выявы, фатаграфіі прадметаў, дакументаў, невялікія тлумачальныя тэксты на беларускай і англійскай мовах. Праект прадстаўляе беларускую нацыю як неад'емную частку сусветнай супольнасці і дапамагае зразумець, хто такія беларусы.

✔ Персанальная выстаўка Аляксея Кузьміча «Вобразы Мадоннаў» адкрылася ў Расійскім доме навукі і культуры ў Берліне і будзе працаваць да пачатку красавіка. Экспазіцыя арганізавана Пасольствам Беларусі ў ФРГ сумесна з сынам мастака Аляксеем Кузьмічом-малодшым і ўключае больш як 30 твораў розных часоў. Выстаўка праводзіцца ў адпаведнасці з доўгатэрміновым праектам, накіраваным на папулярызацыю за мяжой творчасці выбітнага мастака, айчыннага мастацтва ў цэлым, каштоўнасцей беларускага грамадства.

✔ Канцэрты рэспубліканскай акцыі «Беларусь, я люблю цябе» будуць праходзіць у грамадскагандлёвым цэнтры «Сталіца» кожны тыдзень па суботах з 14.00 па 16.00 да 7 мая. Як паведамілі ў Міністэрстве культуры, плануюцца выступленні выхаванцаў і творчых калектываў устаноў адукацыі ў сферы культуры рэспубліканскага падпарадкавання, горада Мінска і Мінскай вобласці. Сярод выступоўцаў — лаўрэаты міжнародных конкурсаў, лаўрэаты і стыпендыяты спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі. У канцэртах прагучаць творы беларускіх і замежных аўтараў.

✔ На XIV Міжнародным дзіцячым музычным конкурсе «Віцебск-2016», які адбудзецца падчас юбілейнага XXV Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску», Беларусь прадставіць мінчанка Анастасія Жабко. Такое рашэнне было аднадушна прынятае судзейскай калегіяй пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Эдуарда Зарыцкага. Стаць прадстаўніком краіны на прэстыжным песенным конкурсе прэтэндавалі 11 юных талентаў.

# Усё пакінуць след павінна…

### Раіў Пятрусь Броўка ў сваіх вершах. Думку падхапілі мастакі

**Беларускія мастакі Яўген Шунейка, Андрэй Лычкоўскі і Хведар Ладуцька ўжо даўно падарожнічаюць па нашай краіне і кожны месяц пакідаюць сляды ў розных кутках Беларусі: ад Пінска да Крычава, ад Мазыра да Ліды. Дзесьці яны былі ўпершыню, а для кагосьці іх выстаўкі сталі ўжо добрай традыцыяй.**

На пачатку сакавіка супрацоўнікі Уздзенскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя П. Труса прымалі шаноўных гасцей у выставачнай зале мясцовага Палаца культуры. Гэтым разам мастацкая выстаўка аказалася не зусім звычайнай: яна была прысвечана 120-годдзю з дня нараджэння Кандрата Крапівы, ураджэнца Уздзеншчыны.

Віншаванне ад унучкі Кандрата Крапівы, вядомай беларускай мастацтвазнаўцы Алены Атраховіч, зачытала супрацоўнік бібліятэкі Вольга Віяленцій.

— Уздзеншчына — гэта лепшыя мясціны Мінскай вобласці, — кажа Андрэй Лычкоўскі. — Тут бярэ выток рака Нёман, і дзе б мы ні выстаўляліся, усюды нёманскія пейзажы ўспрымаюцца на «ўра».

Прафесар кафедры гісторыі і тэорыі мастацтваў Беларускай акадэміі мастацтваў Яўген Шунейка выкарыстоўвае для партрэтаў і пейзажаў акварэль, алейныя фарбы і пастэль. Таксама ён працуе ў рэдкім народным стылі «маляваныя дываны». Сталічны майстар Хведар Ладуцька працуе ў асноўным у пастэльным і алейным жывапісе — у жанрах пейзажу і нацюрморта. А уздзенскі мастак Андрэй Лычкоўскі — у тых самых жанрах, але ў станковым жывапісе.

Паводле Яўгена Шунейкі, галоўная задача новай выстаўкі — паказаць, з якіх вытокаў чэрпаў натхненне байкапісецкласік. Прысутныя ўбачылі на карцінах не толькі ўсю прыгажосць радзімы Кандрата Крапівы, але і яго партрэты, а яшчэ — вобразы герояў баек.

Падчас адкрыцця выстаўкі майстры прынялі ў сваю кампанію і маладую мастачку Яўгенію Сушкевіч, якая працуе ў рэчышчы сюррэалізму.



*Андрэй Лычкоўскі.*

Карціны мастакоў размешчаны ў многіх музеях нашай краіны. І ў кожным творы, якія яны пакідаюць установам, застаецца часцінка іх саміх.

**Валерыя КІСЛАЯ, студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ**

## Выстаўка

# По завулках мінулага

### Вандраваць запрашаюць брэсцкія мастакі

Каля 40 работ 13 вядомых брэсцкіх мастакоў прадставілі «Горад нашай памяці» на палотнах, што склалі экспазіцыю выстаўкі з аднайменнай назвай. Урачыстае адкрыццё вернісажу адбылося на пачатку сакавіка ў Мастацкім музеі Брэста. Валерый Кавальчук, Іван Фяцісаў, Марат Клімаў, Леанід Уласюк і шэраг іншых брэсцкіх мастакоў падарылі брэстаўчанам і гасцям горада магчымасць акунуцца ў мінулае горада над Бугам, захапіцца яго прыгажосцю і параўнаць яго з Брэстам сённяшнім. Разам з брэсцкімі мастакамі павандраваць па завулках мінулага наведвальнікі экспазіцыі змогуць да 28 сакавіка. Роўна столькі часу ў Мастацкім музеі Брэста будзе дзейнічаць выстаўка «Горад нашай памяці».

**Марыя КОБЕЦ**

## Прэм'ера

# Адказнасць за справы

### У Віцебску звярнуліся да драмы Францішка Аляхновіча

Драма «Цень думкі нашай...» стала асновай для стварэння спектакля ў Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Якуба Коласа. Аўтар драмы Францішак Аляхновіч працаваў у віцебскім тэатры загадчыкам літаратурнай часткі ў 20-я гады мінулага стагоддзя. Пра гэта памятаюць у тэатры, які ў год свайго 90-годдзя звяртаецца да ўвасаблення твора драматурга яшчэ і таму, што актуальнасць тэмы не згубілася: чалавек плаціць за свае памылкі ўсё жыццё і нясе адказнасць за тое, што робіць у дачыненні да іншых людзей. Малады рэжысёр спектакля «Цень думкі нашай...» Ніна Обухава ставрала яго як дыпломную працу для выпуску з рэжысёрскага аддзялення Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Прэм'еру тэатр прадставіць 11 сакавіка.

**Марыя АСІПЕНКА**

## У літаратурным асяродку

# Каханне і гісторыя

Свята паэзіі «З любоўю да жанчыны», арганізаванае Мінскім гарадскім аддзяленнем СПБ і Саюзам жанчын БДУ, прайшло на філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта.

Вядучы імпрэзы, старшыня МГА СПБ Міхась Пазнякоў, у вершах з новай паэтычнай кнігі «Наталенне Радзімай» паказаў, наколькі шмат значыць для сучаснага чалавека ўнутраная блізкасць з роднымі мясцінамі ды людзьмі. Перад аўдыторыяй выступілі паэты Міхась Башлакоў, Навум Гальпяровіч, Уладзімір Мазго, Змітрок Марозаў, Мікола Шабовіч, Хізры Асадулаеў, Анатоль Зэкаў.

Міжнароднаму жаночаму дню было прысвечана і чарговае пасяджэнне Клуба творчых жанчын «Спадарыня», які ўзначальвае член СПБ, дзіцячая пісьменніца Тамара Бунта, у сталічнай публічнай бібліятэцы № 5. У адрозненне ад мінулых сустрэч, гэтым разам у межах клуба сваю творчасць прадстаўлялі выключна мужчыны: гучалі вершы ў аўтарскім выкананні Міхася Пазнякова, Міколы Шабовіча, Анатоля Зэкава, песні спявалі пісьменнік і бард Дзмітрый Пятровіч, кампазітар і спявак Сяргей Кравец. Са святам павіншаваў удзельніц клуба і дацэнт БДУ Уладзімір Навумовіч.

Кніга сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі Яўгена Хвалея «Серабрыстыя таполі» летась выйшла ў выдавецтве «Чатыры чвэрці» ў серыі «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі». «Серабрыстыя таполі» — раман-эсэ пра мастака-рамантыка XIX ст. Валенція Ваньковіча. Таму на прэзентацыю гэтага выдання, што адбылася ў Барысаўскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя І. Х. Каладзеева, прыйшлі не толькі аматары беларускай літаратуры, але і гісторыкі, краязнаўцы. Падчас імпрэзы можна было пазнаёміцца з выстаўкамі «Выдавецтва "Чатыры чвэрці"» і «Вернутыя імёны: Валенцій Ваньковіч», дзе экспанаваліся кнігі і артыкулы з фондаў бібліятэкі.

Супрацоўнікі дзіцячага аддзела Рагачоўскай цэнтральнай раённай бібліятэкі зладзілі свята беларускай мовы з удзелам пяцікласнікаў мясцовай сярэдняй школы № 2. Юныя чытачы дэкламавалі вершы, адгадвалі загадкі, удзельнічалі ў літаратурных конкурсах і гульнях. Слухалі казкі ў выкананні аўтара — рагачоўскага пісьменніка Міхася Слівы. Падчас імпрэзы адбыўся спектакль з удзелам бібліятэкараў і вучняў па матывах аднаго з твораў пісьменніка.

Каб узгадаць самыя прыемныя моманты зімы, варта ўзяць у рукі кнігу Кацярыны Хадасевіч-Лісавой «Казкі чараўніцы Зімы». Зазірнеш пад вокладку — і, нібыта на машыне часу, перанясешся ў святочныя дні. Ды і сама пісьменніца падчас прэзэнтацый, якія прайшлі ў бібліятэках і школах сталіцы і вобласці, ператвараецца ў спадарыню Зіму. Бо хто, як не яна, можа распавесці марозна-снежныя казкі! Дарэчы, кожны з юных чытачоў можа паспрабаваць сябе ў якасці акцёра і сыграць ролю аднаго з персанажаў зімовай гісторыі.

Вучні Дубаўлянскай СШ Мінскага раёна часта наведваюць культурны цэнтр суседняга аграгарадка Бальшавік, дзе займаюцца ў розных гуртках па інтарэсах. Нядаўна хлопчыкі і дзяўчынкі сабраліся ў цэнтры, каб слухаць, актыўна рэагаваць і атрымліваць адказы на пытанні — менавіта ў такім фармаце прайшла арганізаваная па ініцыятыве загадчыцы бібліятэкі аграгарадка Валянціны Шэўчык сустрэча чацвёртакласнікаў з паэтам Анатолем Зэкавым.

**Дзіна ДОЛЬСКАЯ**

# З французскім духам

Адзінаццатага сакавіка ў Парыжы адбудзецца адкрыццё «Першых тэатральных сезонаў Беларусі ў Францыі». Прыемную навіну паведаміла Пасольства Рэспублікі Беларусь у Францыі, якое разам з Пастаянным прадстаўніцтвам ЮНЕСКА ў Беларусі на працягу 2015 года займалася падрыхтоўкай і арганізацыяй культурнага праекта.

Адкрываць праект у адным са знакамітых тэатраў Парыжа — тэатры «Ад'яр», заснаваным яшчэ ў 1914 годзе, — выпаў гонар «Тэатру кінаакцёра» Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм» лірычнай камедыяй «Лёгкага жыцця ніхто не абяцаў» рэжысёра-пастаноўшчыка, народнага артыста Беларусі Аляксандра Яфрэмава. Выбар паў менавіта на гэту п'есу, бо яе аўтар — французскі драматург Жан-Клод Іслер, які, хутчэй за ўсе, будзе прысутнічаць на спектаклі. Яго меркаванне пакажа, наколькі беларускія тэатральныя дзеячы зразумелі задуму аўтара і адчулі французскую атмасферу. Гледачы ўбачаць дзеянне спектакля на рускай мове з тытраваным перакладам на французскую.

На працягу «Першых тэатральных сезонаў Беларусі ў Францыі» публіцы будзе прадстаўлены шэраг знакамітых пастановак беларускіх тэатраў, сярод якіх вылучаюцца Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы і Тэатр аднаго акцёра «Зніч». Таксама адбудуцца майстар-класы тэатральных рэжысёраў і артыстаў, выстаўкі, прысвечаныя гісторыі развіцця беларускага тэатра, і сумесныя беларуска-французскія праекты.

«Першыя тэатральныя сезоны Беларусі ў Францыі» — не проста важная інфармацыйная нагода. Такія мерапрыемствы карысныя для нашай краіны, бо дазваляюць праз культуру прадэманстраваць іншым народам магчымасці беларусаў, дапамагчы ім зразумець наш менталітэт, раскрыць гісторыю, паказаць нацыянальныя каштоўнасці.

Арыгінальныя, маштабныя праекты даказваюць, наколькі насычана ў Беларусі праходзіць Год культуры, наколькі якасна адбываюцца мастацкія падзеі як на міжнародным, так і на рэгіянальным узроўні. Падчас арганізацыі «Першых тэатральных сезонаў Беларусі ў Францыі» заўважна: цікавасць да беларускага мастацтва ў свеце расце. А гэта сведчыць пра паспяховасць выбранага курса ў беларускай культуры.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Класіка ад тэатра Башкартастана

Пакуль дзеячаў беларускіх тэатраў будуць прымаць у Парыжы, на сцэне Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра пачнуцца гастролі Рускага драматычнага тэатра Рэспублікі Башкартастан (горад Уфа).

Адкрые тэатральныя гастролі спектакль «Фабрычная дзяўчына», насычаны знаёмымі песнямі і сюжэтамі з мінулага, пастаўлены па п'есе таленавітага і арыгінальнага драматурга Аляксандра Валодзіна. Чаму першай будзе паказана менавіта гэта лірычная пастаноўка? Рэжысёр спектакля лічыць, што «Фабрычная дзяўчына» — гісторыя пра чалавечую годнасць і адкрытасць, якая не страціла сваёй актуальнасці з савецкіх часоў і сёння здольная закрануць гледача «за жывое».

Пасля беларускай публіцы будуць прапанаваны «Бацькі і дзеці» Івана Тургенева, прадстаўленыя ў класічным варыянце, але з улікам сучасных тэндэнцый тэатральнай прасторы. Пакажуць і «Шалёныя грошы» Астроўскага — пастаноўку, якая з моманту стварэння не страціла гумару і лёгкасці. З замежнага госці прадставяць спектакль «Усё кулём», пастаўлены па матывах твора іспанскага драматурга Альвара Портэса, і спектакль «Неапаль — горад мільянераў» італьянскага драматурга Эдуарда дэ Філіпа.

Паколькі калектыў тэатра прыязджае ў беларускую сталіцу напярэдадні свайго 155-годдзя, у аснову гастрольнай праграмы ўвайшлі лепшыя пастаноўкі апошніх гадоў. Калектыў Рускага драматычнага тэатра Рэспублікі Башкартастан больш як тры дзесяцігоддзі ўзначальвае заслужаны дзеяч мастацтваў Расіі і Башкартастана Міхаіл Рабіновіч, які ў пастаноўках не толькі захоўвае традыцыі, але і імкнецца эксперыментаваць з літаратурным матэрыялам, не руйнуючы класічны сэнс, а адкрываючы новыя бакі вядомых на першы погляд літаратурных шэдэўраў.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Культура ў дыялогу

**Культура — цікаўная паненка. Яна, безумоўна, у першую чаргу клапоціцца пра тое, як выглядае сама. Яна ведае сваё паходжанне і імкнецца паглыбіцца ва ўласнае мінулае, каб лепш зразумець свае жаданні ды памкненні. Яна паважліва ставіцца да тых, хто яе спарадзіў і ствараў, і імкнецца прадстаўляць годна ці то свой этнас, ці то народ, нацыю, краіну.**

Але ёй хочацца, каб яе бачылі і ацанілі іншыя, ёй цікава кантактаваць з рознымі культурамі. Таму што для развіцця патрэбнае свежае паветра, якое абуджае іншыя ідэі, думкі, формы. Яны могуць уражваць інавацыямі, а могуць кранаць адданасцю традыцыям, дзіўнымі ўзорамі, якія падаюцца экзатычнымі, але калі прыглядзецца, паглыбіцца, то за імі праглядае і мінулае, і магутная традыцыя, і цікаўнасць, скіраваная ў свет. Калі наладжаны міжкультурны дыялог, то сыходзіць напружанасць, якую можа выклікаць сутыкненне з чужым, незразумелым, далёкім. Тады на іншага глядзіш як на партнёра, у якога ёсць чаму павучыцца ці з якім можна супрацоўнічаць. Які паважае. І які таксама варты павагі.

Сёння ў Рэспубліцы Беларусь шмат партнёраў, з якімі мы знаходзімся ў міжкультурным дыялогу. Найперш — нашы суседзі, краіны і культуры еўрапейскага рэгіёна. Але яшчэ гэта і краіны Усходу, якія былі паяднаныя з намі ў культурнай прасторы савецкай дзяржавы, якія таксама ўмацоўваюць нацыянальныя дзяржавы на глебе адметнай культуры. Адна з іх — Таджыкістан, які даў свету вялікіх асоб Авіцэну, паэтаў Нізамі ды Амара Хаяма і іншых. Літаратура развіваецца ў краіне і ў нашы дні, акрамя таго, ёсць цікавасць да літаратур іншых народаў, у тым ліку беларускага.

# Покліч сяброўства

У Таджыкістане вельмі шмат робіцца дзеля знаёмства з беларускай літаратурай на таджыкскай мове. У Душанбэ выйшлі кнігі Алеся Бадака, Георгія Марчука, Юрыя Сапажкова, Міколы Мятліцкага, Ірыны Качатковай (Марыі Рудовіч)... І беларусам таксама хацелася б аддзячыць калегам за іх руплівасць.

Так нарадзілася невялікая кніжачка «Таджыкістан: імгненні вечнасці», якая выйшла ў мінскім выдавецтве «Звёзды гор» у 2009 годзе. Пад адной вокладкай (укладальнік — Алесь Бадак) былі сабраны нарыс Алеся Карлюкевіча «Таджыкістан: імгненні вечнасці» (напісаны пасля паездкі ў Таджыкістан восенню 2008 года), вершы Саідалі Мамура і Фарзоны. Перакладчыкам большасці паэтычных тэкстаў выступіў Мікола Мятліцкі. А вось цыкл «Званы Хатыні» Саідалі Мамура дадзены ў перакладзе Міколы Аўрамчыка. «Ніколі не маўчаць званы Хатыні. / І ўдзень, і ноччу ўсё звіняць яны, / бы ўсе загінуўшыя у Хатыні / загаманілі разам аб адным...» — праніклівыя радкі народнага паэта Таджыкістана былі напісаны яшчэ ў 1970-я гг. Тады ж Мікола Аўрамчык і пераўвасобіў іх на мову Купалы і Коласа.

Тая сціплая беларуска-таджыкская кніжачка гучыць як напамін пра вартасці літаратурнага пабрацімства, нагадвае пра тое, што таджыкскія пісьменнікі ўважлівыя і ў тэматычнай прасторы сваёй працы да Беларусі. І будзем жа мець спадзяванне, што з часам выйдзе грунтоўная анталогія таджыкскай паэзіі на беларускай мове. А можа быць — і анталогія прозы таксама?..

**Максім ЛАДЫМЕРАЎ**




**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**11 сакавіка** *— на свята дзіцячай кнігі ў СШ № 61 (вул. Кірылы Тураўскага, 5) з удзелам старшыні секцыі дзіцячай літаратуры СПБ Уладзіміра Мазго. Пачатак а 10-й гадзіне.*

**15 сакавіка** *— у Школу юнага празаіка пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5-310). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**15 сакавіка** *— у Мінскую абласную бібліятэку імя А. С. Пушкіна (вул. Гікала, 4) на прэзентацыю кнігі паэзіі Юрыя Сапажкова «Дай пламени у пламени остыть». Пачатак а 18-й гадзіне.*

**16 сакавіка** *— на літаратурнае свята «Святло дабрыні», прысвечанае беларускай аўтарскай казцы, у Мінскую абласную бібліятэку імя А. С. Пушкіна (вул. Гікала, 4). Пачатак а 11-й гадзіне.*

**17 сакавіка** *— на прэзентацыю кнігі вершаў Міхася Пазнякова «Тепло ромашковой метели» ў Дом Масквы (вул. Камуністычная, 86). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**18 сакавіка** *— у літаратурны клуб «Сугучча» пры СШ № 77 (вул. Крупскай, 10) на паэтычна-музычнае свята. Пачатак а 18-й гадзіне.*

**Віцебскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**17 сакавіка** *— на творчы вечар паэтэсы Вольгі Русілка. Імпрэза адбудзецца ў Віцебскім дзяржаўным універсітэце імя П. М. Машэрава. Пачатак у 11.30.*

## Дайджэст

• Распаўсюднікі друкаванай, аўдыявізуальнай прадукцыі і фанаграм у Расіі цяпер мусяць папярэджваць пакупнікоў пра наяўнасць у названай прадукцыі нецэнзурнай лаянкі. Папярэджанне «змяшчае нецэнзурную лаянку» будзе наносіцца колерам, кантрасным фону, лёгка чытэльным шрыфтам і па памеры зойме не менш як 5% плошчы паверхні. Гэтыя правілы прапісаныя ў адпаведнай пастанове. Такая ініцыятыва, па меркаванні экспертаў, мусіць замацаваць правы пакупнікоў, даючы ім больш інфармацыі аб прадукцыі, а таксама абараніць дзяцей ад негатыўнага інфармацыйнага ўплыву. Да гэтага часу існавала маркіроўка па абмежаванні ўзросту, уведзеная ў 2012 годзе з пачаткам дзейнасці Закона «Аб абароне дзяцей ад інфармацыі, якая ўчыняе шкоду іх здароўю і развіццю».

• Мігель дэ Сервантэс Сааведра «завёў» старонку ў Твітары. Дапамаглі яму ў гэтым журналісты папулярнага ў Іспаніі тэлеканала *La Sexta*. Назва старонкі — «Жыве Сервантэс!» — гаворыць пра непадробную цікаўнасць іспанцаў да славутага земляка. На электроннай старонцы аўтара «Дона Кіхота» змешчаныя цытаты і крылатыя выразы з рамана. Ініцыятыва журналістаў адразу ж знайшла падтрымку сярод карыстальнікаў сеткі: у першыя дні на акаўнт Сервантэса падпісалася больш як 10 тысяч чалавек. Стваральнікі старонкі плануюць падтрымліваць акцыю да красавіка, а тэлеканал *La Sexta* спланаваў праграмы на сакавік такім чынам, што мастацкія фільмы будуць блізкія па духу творам вялікага класіка іспанскай літаратуры.

• У гонар Дня пісьменніка сацыёлагі даследчыцкага «Левада-цэнтра» (Расія) вырашылі даведацца, каго з класікаў айчыннай літаратуры расіяне лічаць найбольш выбітнымі. Першае месца ў рэйтынгу заняў Леў Талстой, набраўшы 45%. На другім месцы — Фёдар Дастаеўскі (23%), на трэцім — Антон Чэхаў (18%). У дзясятку ўвайшлі Аляксандр Пушкін (15%), Мікалай Гогаль і Міхаіл Шолахаў (13%), Міхаіл Булгакаў (11%), а таксама Іван Тургенеў, Максім Горкі і Міхаіл Лермантаў.

• Карпарацыя *Google* зарэгістравала патэнт на вытворчасць *AR*-кніг, прызначаных для навучання паскораным метадам. У старонкі інтэрактыўных выданняў будуць усталёўвацца адмысловыя датчыкі, што дазволяць ім узнаўляць інфармацыю з элементамі дадатковай рэальнасці. Датчыкі здольныя рэагаваць на ціск, рухі рук, вочы чытача. Таксама будзе размешчаны прайгравальнік. Ён паведаміць карыстальніку, якія дадатковыя характарыстыкі ўводзяцца ў кнігу. Выданне можна будзе падключаць да планшэтаў ды іншых мабільных прылад. Пакуль што дакладныя тэрміны выпуску *AR*-прадукцыі невядомыя.

• Майстар шатландскага нуар-дэтэктыва Ірвін Уэлш паведаміў пра новую кнігу, дзе фігуре даўнішні персанаж Бігбі — герой дэбютнага рамана Уэлша «На ігле», выдадзенага 23 гады таму. Новая гісторыя мусіць быць апублікавана ўжо ў красавіку пад назвай «Той, хто малюе лязом». Расповед пойдзе пра тое, як Фрэнсіс Бігбі распачынае новае жыццё ў Амерыцы. Прэзентацыя рамана адбудзецца на міжнародным Эдынбургскім кніжным фестывалі *(EIBF)* 10 красавіка, а правядуць яе сам аўтар і выканаўца ролі Бігбі ў будучай экранізацыі, акцёр Роберт Карлайл. Ён пачытае ўрыўкі з рамана і нават сыграе некалькі вострых сцэн. Квіткі на імпрэзу прадаюцца вельмі актыўна.

# «У нашых народаў глыбінныя

**Госць нашага сённяшняга нумара — Таджыкістан, які мае адметную культуру і традыцыі. Краіна, якая падаецца нам сёння далёкай. Але Беларусь і Таджыкістан — краіны, якія сталі незалежнымі ў 1990-х гадах мінулага стагоддзя, — сутыкнуліся з задачай будаўніцтва дзяржаўнасці. Калі мы гаворым пра Беларусь, то разумеем, што працэсы этнагенезу на нашай тэрыторыі ішлі тысячы гадоў, таксама ўзгадваем першыя дзяржаўныя ўтварэнні, якія з'явіліся 1000 гадоў таму. Ці было нешта падобнае ў гісторыі таджыкскага народа, пра што можа быць не вядома нам?**



Адшукаць адказ на гэтае ды іншыя пытанні дапамог **Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Таджыкістан у Рэспубліцы Беларусь Казідаўлат Каімдодаў**:

— Таджыкі маюць старажытную і цікавую гісторыю. Індаіранскія народы — продкі бактрыйцаў, сагдыйцаў, харэзмійцаў, сакаў, якія ў далейшым утварылі таджыкскі народ, былі часткай вялікай сям'і індаеўрапейскіх народаў, якія жылі на працягу першай паловы II тысячагоддзя да н.э. у раўнінах паміж Дняпром і Уралам, рухаліся на Усход і Поўдзень, асталяваліся ў паўднёвых рэгіёнах сучаснай Расіі, у Цэнтральнай Азіі, цяперашніх Іране і Афганістане, дабраліся да Індыі. Яны сышлі, але іх сляды засталіся на пакінутай тэрыторыі. Гэтым хочацца сказаць, што нашы народы маюць глыбінныя агульныя карані. Першыя дзяржаўныя ўтварэнні на нашай тэрыторыі з удзелам бактрыйцаў і сагдыйцаў з'явіліся ў I тысячагоддзі да н.э. Напрыклад, старажытнабактрыйскае царства існавала яшчэ да аб'яднання гэтых тэрыторый у імперыі Ахеменідаў, якая была ўтворана Кірам Вялікім у сярэдзіне VI стагоддзя да н.э. У наступныя стагоддзі продкі нашага народа ўвайшлі ў склад розных дзяржаў, у прыватнасці дзяржавы Селяўкідаў, Грэка-Бактрыйскага царства, Кушанскага царства, імперыі Сасанідаў (заваяваная арабамі).

Перыяд фарміравання таджыкскага народа і яго мовы пачаўся ў VII — VIII ст., быў некалькі замаруджаны падчас нашэсця арабаў і праўлення Халіфата. У IX ст. пачаўся працэс фарміравання новых нацыянальных дзяржаў на ўсходняй частцы Халіфата Абасідаў, і на карце свету з'явілася дзяржава Саманідаў, заснавальнікамі і кіраўнікамі якой былі таджыкі. Можна сказаць, саманіды, вывучыўшы вопыт іншых краін, для тых часоў стварылі эфектыўную і дасканалую форму дзяржкіравання, што спрыяла бурнаму развіццю краіны ва ўсіх напрамках. У гэты ж перыяд завяршыўся працэс фарміравання таджыкскага народа, таджыкскай мовы, створаны несмяротныя літаратурныя і навуковыя творы на гэтай мове. Пасля распаду дзяржавы Саманідаў таджыкскі народ жыў у складзе розных дзяржаў, што існавалі на нашай тэрыторыі. Утвораная ў 1929 годзе Таджыкская ССР уключала ў сябе малую частку тэрыторый, дзе спрадвечна жылі таджыкі.

**— Якія помнікі культуры сведчаць пра багатую гісторыю Вашага народа? Што цікава было б убачыць, каб лепш зразумець Таджыкістан?**

— Помнікаў культуры на тэрыторыі цяперашняга Таджыкістана дастаткова для таго, каб сфарміравалася пэўнае ўяўленне пра гісторыю нашага народа. У свой час тэрыторыю цяперашняга Таджыкістана перасякала некалькі галін Вялікага шаўковага шляху, якія злучаюць Кітай з заходнімі краінамі. Натуральна, уздоўж дарог былі пабудаваны крэпасці, караван-адрыны, іншыя прыдарожныя інфраструктуры. Адна з такіх крэпасцей — Ямчун — пабудавана ў III стагоддзі да н.э. На поўдні Таджыкістана ёсць крэпасць Хулбук, якая таксама мае гістарычную каштоўнасць. Гарадзішча Саразм, што на поўначы, уключана ў спіс аб'ектаў Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА. Яно лічыцца найстаражытнейшым паселішчам (IV — II тысячагоддзе да н.э.). Сама назва «Саразм» паходзіць ад старажытнага таджыкскага слова «сарызамін» («пачатак зямлі»). Гісарская крэпасць нядаўна святкавала 3000-годдзе, таксама мае культурна-гістарычную каштоўнасць.

Акрамя гэтых гісторыка-культурных аб'ектаў, трэба адзначыць горы Таджыкістана. За апошнія некалькі гадоў прырода Таджыкістана займала першыя месцы ў свеце сярод іншых краін у апытаннях па турыстычных прыгажосцях. Асаблівае месца належыць Нацыянальнаму парку Таджыкістана «Горы Паміра», тэрыторыя якога складае 18% агульнай плошчы краіны. Сёння ён з'яўляецца цэнтрам экалагічнага ды іншых відаў турызму ў краіне. Там першародная прырода: высокія вяршыні, вечныя ледавікі, унікальныя мінеральныя крыніцы, высакагорныя азёры, неверагодныя па сваёй прыгажосці флора і фаўна. У мінулым годзе ў сталіцы Таджыкістана быў пабудаваны комплекс пад назвай «Кохі Наўруз». Госці ацанілі яго незямную прыгажосць. Усе памяшканні гэтага будынка аформлены мясцовымі майстрамі-ўмельцамі: тут і разьба па дрэве, і фларэнтыйская мазаіка з мясцовых паўкаштоўных камянёў, мазаіка з каляровых люстэркаў, размаляваныя столі.

**— Якія гістарычныя фактары больш за ўсё паўплывалі на фарміраванне культуры таджыкскага народа?**

— Культура фарміруецца ў выніку сутыкнення шматлікіх фактараў — духоўных каштоўнасцей, рэлігіі, звычаяў, з аднаго боку, і навакольнага асяроддзя, прыроды і прыродных багаццяў, іншых умоў жыцця з іншага. Уносяць свае карэктывы таксама падзеі, што адбываюцца, і ўзаемаадносіны з іншымі народамі. Вынік — разнастайнасць культур жыхароў зямнога шара. У нашага народа таксама пад уздзеяннем гэтых фактараў на працягу доўгіх стагоддзяў фарміравалася культура. Да прыкладу, зараастрызм як рэлігія з'явіўся на нашых тэрыторыях, і, паколькі яго ідэалогія, асабліва пастулаты «добрыя намеры, добрыя словы і добрыя справы» ўвайшлі ў менталітэт нашых продкаў, новая рэлігія іслам не змагла іх выжыць, знішчыць, а наадварот: яны былі прыстасаваны да новых умоў. Ці, да прыкладу, святкаванне Наўруз — наступлення новага года, якое адзначаецца штогод у дзень вясновага раўнадзенства. Наўруз адзначалі як свята ў глыбокай старажытнасці, магчыма, да з'яўлення зараастрызму. Балазе, Наўруз усё больш атрымлівае папулярнасць, рэзалюцыяй ААН ад 2010 года ён аб'яўлены яшчэ і міжнародным святам. Вядома, гістарычныя фактары таксама маюць уплыў на фарміраванне культуры, што мы бачылі ў XX стагоддзі, калі Таджыкістан быў у складзе СССР. Пры ідэалагічнай дзяржаве змены былі, аднак людзі захавалі і свае нацыянальныя каштоўнасці.

**— Наколькі старажытныя традыцыі пісьменства? Якія яшчэ культурныя традыцыі складаюць гонар сучаснага Таджыкістана, адрозніваючы Вашу краіну ад іншых?**

— Калі меркаваць па ўзорах пісьменства, якія дайшлі да нашых дзён, нашы продкі яшчэ падчас праўлення дынастыі Ахеменідаў выкарыстоўвалі персідскі клінапіс, сагдыйская мова мела пісьменнасць. Пасля заваёвы арабаў з'явілася персідская пісьменнасць на аснове арабскай графікі, якая існуе да сённяшняга дня, а ў 1928 годзе была заменена новым алфавітам, створаным на аснове лацініцы. З 1940 года ў Таджыкістане выкарыстоўваецца алфавіт, створаны на аснове кірыліцы. Трэба адзначыць, што ў гарах Таджыкістана былі выяўлены пятрогліфы, якім некалькі тысяч гадоў. Кнігу «Авеста» мы лічым сваім культурным здабыткам.

Традыцыя вытворчасці шаўковых тканін каранямі сыходзіць у эпоху Вялікага шаўковага шляху. Разьба па дрэве працягвае традыцыю сагдыйскіх майстроў. І, вядома ж, продкі таджыкаў былі найстаражытнейшымі земляробамі Сярэдняй Азіі. Музычнае мастацтва таджыкаў узыходзіць да традыцый іх старажытнаіранскіх продкаў.

**— На пачатку станаўлення незалежнай дзяржавы Таджыкістан прайшоў праз сур'ёзныя выпрабаванні ваеннымі канфліктамі. Як пераадольваліся наступствы?**

— Не сакрэт, што ў 1991 годзе дзяржаўную незалежнасць мы атрымалі ў выніку распаду Савецкага Саюза. Аднак наш народ і тагачасная палітычная эліта не былі гатовыя да такога павароту падзей. Таму ў кароткі час наша краіна ператварылася ў арэну палітычнай барацьбы і ўслед — узброенага супрацьстаяння.

Выратавала тое, што палітычная эліта вырашыла абмеркаваць сітуацыю і шукаць шляхі выхаду з тупіка. На сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі, якая праходзіла ў лістападзе — снежні 1992 года, была прааналізавана сітуацыя, абрана новае кіраўніцтва рэспублікі на чале з Эмамалі Рахмонам.

У выніку ўзброенага канфлікту эканоміцы рэспублікі была нанесеная шкода ў памеры каля 10 млрд долараў ЗША, каля мільёна чалавек сталі бежанцамі або ўнутранымі перасяленцамі, дзясяткі тысяч загінулі або прапалі без вестак. Новы кіраўнік дзяржавы падключыў усе магчымасці і рэсурсы для выхаду з крытычнага становішча. Да міратворчага працэсу былі далучаныя ААН, АБСЕ, іншыя міжнародныя і рэгіянальныя арганізацыі, сяброўскія краіны. З іх дапамогай і з падтрымкай народа была аднаўлена разбураная гаспадарка, вернутыя бежанцы і ўнутраныя перасяленцы, праводзіліся перамовы з апазіцыяй, якія працягваліся больш як тры гады і завяршыліся падпісаннем 27 чэрвеня 1997 года Агульнага пагаднення аб міры і нацыянальнай згодзе ў Таджыкістане. Гэта быў вельмі складаны працэс, але нам удалося аднавіць мір і згоду ў краіне. Пацвярджэннем гэтых слоў з'яўляецца прыняты нядаўна парламентам краіны закон, згодна з якім Эмамалі Рахмон прызнаны заснавальнікам міру і згоды — лідарам нацыі.

**— Таджыкістан сёння: дзякуючы чаму жыве краіна, што складае аснову эканомікі? Ці ёсць прадстаўнікі іншых народаў, у прыватнасці беларусы?**

— Што да развіцця эканомікі, то ў краіне рэгулярна праводзяцца важныя мэтавыя эканамічныя рэформы і структурна-інстытуцыйныя пераўтварэнні, якія спрыяюць удасканаленню банкаўскай і фінансавай сістэм, прамысловага і сельскагаспадарчага сектараў эканомікі. Параўнальны аналіз асноўных макраэканамічных паказчыкаў рэспублікі паказвае на іх значны рост за апошнія гады. У 2015 годзе, нягледзячы на ўплыў сусветнага фінансава-эканамічнага крызісу, былі забяспечаны пазітыўнае эканамічнае развіццё і ўстойлівасць макраэканамічных паказчыкаў, аб'ём валавога ўнутранага прадукту склаў больш за 48 млрд. самані, тэмп яго росту — 6% і ўзровень інфляцыі — 5%. Узровень беднасці знізіўся да 31%, ВУП на душу насельніцтва павялічыўся на 3,8%. Прыярытэтнымі галінамі эканомікі рэспублікі з'яўляюцца сельская гаспадарка, прамысловасць, уключаючы энергетыку, транспарт, сувязь, будаўніцтва, гандаль, гасцінічны сектар.

У краіне створаны спрыяльны клімат для замежных інвестыцый, пастаянна ўдасканальваецца заканадаўства для развіцця свабоднага прадпрымальніцтва як прыярытэтнага напрамку развіцця. За апошнія дзесяць гадоў рэалізавана больш як 90 дзяржаўных інвестыцыйных праектаў на агульную суму 12 млрд самані, цяпер рэалізуюцца 63 іншыя праекты ў агульным аб'ёме больш за 19 млрд самані. Ідзе рэалізацыя буйных міждзяржаўных праектаў, рэалізацыя якіх дасць магчымасць злучыць Таджыкістан з іншымі сумежнымі краінамі, гэта значыць, з рэгіянальнай камунікацыйнай інфраструктурай, і забяспечыць выхад да мора. Рэспубліка Таджыкістан — шматнацыянальная дзяржава, у якой пражываюць таджыкі і прадстаўнікі больш як 40 нацый і нацыянальнасцей, у прыватнасці беларусы. Пасля атрымання незалежнасці народ выбраў шлях пабудовы свабоднай, дэмакратычнай, прававо і свецкай дзяржавы. З такімі намерамі мы развіваем нашу дзяржаву, умацоўваючы яе аснову (ідэя адраджэння нацыі).

Варта адзначыць, што пытанні дэмакратыі для таджыкскай нацыі не новыя. Пытанні гуманізму і абароны правоў чалавека, у прыватнасці такія тэмы, як справядлівасць, раўнапраўе, справядлівае кіраванне грамадствам, якія бяруць пачатак яшчэ з Дэкларацыі правоў чалавека Вялікага Кіра, знайшлі затым развіццё ў працах вялікіх таджыкскіх мысляроў і паэтаў — Імома Абуханіфы, Рудакі, Фкарабі, Авіцэны, Нізамулмулка, Насрыдзіна Тусі, Нізамі Ганджаві, Маўлано Джамі, Ахмада Даніша і іншых. Ідэя «развіццё» азначае бесперапынны рух па шляху рэформ, далейшае пераўтварэнне ўсіх бакоў грамадскага жыцця. Навізна, інавацыйны характар заключаюцца ў тым, што робіцца ўпор на ўсебаковым развіцці грамадства — культуры, мастацтва, а не толькі эканомікі.

# карані»

**— Ці ёсць сучасныя культурныя брэнды або сімвалы, па якіх пазнаюць у свеце вашу краіну?**

— Безумоўна, ёсць шмат брэндаў, якімі могуць ганарыцца таджыкістанцы, адзначу некалькі. «Сюзані» — вышытае дэкаратыўнае пано з белай (радзей каляровай) бавоўнянай тканіны або шоўку як элемент упрыгожвання інтэр'ера. Вельмі прыгожыя шкарпэткі-джурабы, іх да гэтага часу вяжуць па тых старых звычаях, якія засталіся ад продкаў. Пража для такіх джурабаў вырабляецца самастойна з воўны жывёл, якія ёсць у нас у горнай частцы Таджыкістана. Цюбецейкі і адзенне таджыкаў увабралі шмат фарбаў. Яны шыюцца ўручную і чымсьці падобныя да беларускіх вышыванак. У музыцы нашы кірункі «шашмаком» і «фалак». Ёсць, вядома, таджыкская кухня: плоў, манты, самбуса і іншыя таджыкскія стравы, якія ўпрыгожваюць наш традыцыйны дастархан.

**— Наколькі насельніцтва Таджыкістана аддадзена сваім традыцыям?**

— Прэзідэнт Рэспублікі Таджыкістан амаль ва ўсіх сваіх выступах да народа краіны падкрэслівае, што мы павінны захаваць культуру, традыцыі, вопратку і нацыянальную кухню. У Таджыкістане заўсёды з павагай ставіліся да нацыянальных і культурных традыцый. У нашай краіне адраджаюць нацыянальныя рамёствы, якімі славіліся продкі: разьба па дрэве, ляпніна, гулдузі, сюзані, зардузі (вышыўка), цюбецейкі і г. д. У новым будаўніцтве выкарыстоўваецца стыль, якім упрыгожвалі жыллё раней. Праходзяць кірмашы, дзе прадстаўлена нацыянальнае прыкладное мастацтва розных рэгіёнаў Таджыкістана. Дзяржава надае вельмі вялікую ўвагу развіццю народна-мастацкіх промыслаў, якія дапамогуць захаваць самабытнасць народнай творчасці таджыкаў і адрадзіць самыя старажытныя віды рамёстваў.

Нацыянальныя святы — старажытныя і, мабыць, самыя прыемныя традыцыі. У сучасным Таджыкістане адзначаюць «Наўруз», свята цюльпанаў «Сайры лола», свята першых пралесак, а таксама Ідзі Рамазон, Ідзі Курбон і іншыя. Сёння, як і шмат гадоў, традыцыйныя святы багатыя танцамі, без іх не абыходзіцца ні адна сямейная ўрачыстасць, імі ўпрыгожана і штодзённае жыццё таджыкаў. Нацыянальная адзенне важнае ў культуры таджыкскага народа. Сёння носяць традыцыйную таджыкскую вопратку, існуюць і камбінацыі нацыянальнага і еўрапейскага адзення ў мужчын і жанчын.

Разам з гэтым ёсць выяўленчае мастацтва, якое складвалася ў нас стагоддзямі. Карціны прадстаўнікоў таджыкскай мастацкай школы прадстаўлены ў многіх галерэях свету і прыватных калекцыях. Глядацкія мастацтвы таксама развіваюцца. У нас былі традыцыйныя тэатралы, якія хадзілі па гарадах і прадстаўлялі сваё майстэрства на суд гледачоў. Таксама былі цыркачы, якіх мы называлі «дарбозы» і «масхарабозы». Першыя — канатаходцы, якія выконвалі розныя трукі на канатах, а другія смяшылі людзей.

**— Сучасная літаратура Таджыкістана: наколькі яна звязана з традыцыяй? Наколькі прадстаўнічая пісьменніцкая супольнасць у наш час?**

— Таджыкская літаратура дзеліцца на некалькі перыядаў. Ёсць таджыкска-персідская літаратура, прадстаўнікі якой вядомыя ўсяму свету. Гэта Абуабдула Рудакі, Абулкасым Фірдаўсі, Ібн Сіна (Авіцэна), Джалаладдзі Румі, Амар Хаям, Насір Хасроў, Нізамі Ганджаві, Фарыдадзін Атар, Саадзі, Убайд Закані, Хафіз, Камалі Худжанд, Абдурахман Джам, Бедзіл, Зебунісо, Хусраў Дэхлаві, Хасан Дэхлаві, Ахмад Даніш і многія іншыя. Сучасная літаратура Таджыкістана працягвае традыцыі, якія былі закладзены стагоддзямі нашымі вялікімі мысларамі. Вядома ж, у Таджыкістане ёсць свае класікі-сучаснікі. Гэта Садрыдзін Айні, Мірза Турсунзада, якія таксама з'яўляюцца нацыянальнымі героямі Таджыкістана, ды іншыя (тут можна назваць вельмі шмат імёнаў!), хто ўнёс неацэнны ўклад у сённяшнюю таджыкскую літаратуру. Літаратура ў Таджыкістане запатрабаваная і мае чытачоў. У краіне штогод друкуецца да 300 кніг мастацкай літаратуры, якія закранаюць хвалюючыя пытанні грамадства. Гэта адвечнае пытанне адносін пакаленняў, ёсць шмат твораў пра Вялікую Айчынную вайну, пра сельскае жыццё, таксама выдаецца шмат літаратуры для дзяцей.

**Ларыса ЦІМОШЫК**

# Пазыўныя творчага братэрства

**Літаратурныя сувязі — важны складнік любой літаратуры. Яны дабратворна адбіваюцца на літаратурным працэсе, змесце мастацкіх твораў, літаратурных жанрах і асобе пісьменнікаў. Гэта можна ўбачыць на прыкладзе літаратурных сувязей таджыкаў і беларусаў, народаў, якія маюць багатую гісторыю і культуру.**



*Нізом Касім.*

Рэалістычныя карані і рамантычны дух, моцная гістарычная памяць, шчырае імкненне літаратараў і герояў іх твораў да ісціны і справядлівасці аб'ядноўваюць нашыя народы і літаратуры.

Асноўны перыяд узнікнення і ўмацавання нашых літаратурных сувязей прыпадае на савецкі час. Менавіта тады нацыянальныя літаратуры нашых народаў атрымалі магутны імпульс развіцця, узбагаціліся новым зместам і сутнасцю, сталі сапраўднымі творцамі духоўнага жыцця народа. Лепшыя творы Якуба Коласа, Янкі Купалы, Петруся Броўкі, Максіма Танка, Янкі Брыля ў перакладзе сталі здабыткам таджыкскіх чытачоў, а творы Садрыдзіна Айні, Абульказіма Лахуці, Мірзо Турсунзадэ, Сатыма Улугзода, Джалола Ікромі загучалі на беларускай мове. Тым самым насустрач адзін аднаму была раскрытая брама сэрцаў двух народаў. Асабліва хочацца адзначыць, што многія са згаданых выбітных пісьменнікаў былі асабіста знаёмыя і сваім сяброўствам і ўзаемнай сімпатыяй спрыялі збліжэнню і супрацоўніцтву абедзвюх краін.

У гады Вялікай Айчыннай Вайны фашысцкія орды лютавалі на беларускай зямлі, ад рук злодзеяў загінуў кожны трэці жыхар краіны. У барацьбе за вызваленне Беларусі гераічна змагаліся славутыя таджыкскія пісьменнікі — Хабіба Юсуфі, Фатэх Ніязаў, Абдуджабор Кахоры, Мухідзін Фархат. За беларускую зямлю загінуў слаўны сын таджыкскага народа Дамула Азізаў, які атрымаў званне Героя Савецкага Саюза.

На шчасце, сёння, калі пэўныя колы спрабуюць перапісаць гісторыю, ігнаруюць самаахвярны ўклад прадстаўнікоў брацкіх народаў у Вялікую Перамогу, беларускі народ свята шануе іх памяць. Яркае сведчанне — увекавечанне памяці Дамула Азізава. У яго гонар названы вуліца і школа, усталяваны бюст, адкрыты музей, які распавядае пра подзвіг нашага земляка новаму пакаленню.

Усёгэта, безумоўна, годна самых яркіх старонак літаратуры. Старонак, якія займаюць асаблівае месца ў творах сусветна вядомых пісьменнікаў: Васіля Быкава, Андрэя Макаёнка, Аляксея Дударава і іншых. Мужная барацьба беларусаў і таджыкаў, а таксама іншых народаў былога Савецкага Саюза адлюстраваная ў рамане Фатэха Ніязі «Не кажы, што лес пусты», а таксама ў шматлікіх вершах, якія належаць пяру паэтаўвоінаў з Беларусі і Таджыкістана.

Сёння ўсебаковыя зносіны паміж таджыкамі і беларусамі аднавіліся і ўсё больш пашыраюцца і мацнеюць, шматлікія пагадненні па ўзаемаабмене ў гуманітарнай сферы ствараюць спрыяльныя ўмовы для ўмацавання духоўных сувязей нашых народаў. Пагадненні паміж Мінскай і Сагдыйскай абласцямі, гарадоў Мінска і Душанбэ, раёнаў Уздзене і Яана, грамадства сяброўства, правядзенне дзён культур у нашых краінах — звёны залатой ніткі духоўнага яднання. Дзень беларускай паэзіі ў Душанбэ, выстаўкі кніг у абедзвюх краінах, публікацыя трох беларускіх аўтараў на таджыкскай мове і двух таджыкскіх — на беларускай, калектыўныя зборнікі, серыя матэрыялаў у літаратурных выданнях — далёка не ўсё, што зроблена ў гэтым кірунку.

Вечная тэма, што аб'ядноўвае ўсе прагрэсіўныя літаратуры свету, — згуртаванне і яднанне народаў, сцвярджэнне сяброўства, братэрства, шчырасці паміж людзьмі. Як калісьці сфармуляваў Рыгор Барадулін, перакладчык Амара Хаяма на беларускую мову: «не гэтак важна, як завешся ты: праваслаўны, каталік ці мусульманін — Бог адзіны».

Вельмі рады, што і я ўношу свой уклад у гэту важную справу. Па-таджыкску загучала знакамітая п'еса выдатнага драматурга Аляксея Дударава «Прыцемкі», якая пазней была пастаўлена народным артыстам Таджыкістана Мірзаватанам Міравым (галоўныя ролі выканалі Мар'ям Ісаева, Хабібула Абдуразокаў, Ато Мухамеджанаў) і займела вялікі поспех у гледачоў. Апавяданні і вершы Алеся Бадака і Міколы Мятліцкага сталі даступныя шырокаму колу чытачоў Таджыкістана дзякуючы зборнікам «Вечаровае вогнішча» і «Неўвядальная кветка». Дарэчы, першае выданне ўключае ў сябе творы дзевятнаццаці паэтаў ды трынаццаці празаікаў і падрабязна знаёміць таджыкскага чытача з сучаснай літаратурай Рэспублікі Беларусь.

Творчы ўзаемаабмен нашых літаратурных выданняў — добрая традыцыя, якая адрадзілася праз шмат гадоў. Яна будзе дапамагаць духоўнаму збліжэнню дзвюх краін, што знаходзяцца, на першы погляд, на вялікай адлегласці. Гэтыя перапоўненыя каханнем і сімпатыяй старонкі падобны на белакрылых галубоў, што перадаюць адзін аднаму шчырае прывітанне двух братніх народаў і з'яўляюцца прадвеснікамі нашага творчага братэрства.

**Нізом КАСІМ,**
**старшыня Саюза пісьменнікаў Таджыкістана**

# Дары з чароўнага Усходу

Дваццаць год таму, у 1996-м, пачаліся дыпламатычныя адносіны паміж Беларуссю і Таджыкістанам. У красавіку 2000 года меў месца першы афіцыйны візіт Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у Таджыкістан, а ў ліпені наступнага года Прэзідэнт Рэспублікі Таджыкістан Эмамалі Рахмон наведаў Беларусь. Наша краіна неаднаразова аказвала гэтай краіне гуманітарную дапамогу. Супрацоўніцтва Беларусі і Таджыкістана на міжнароднай арэне мае канструктыўны характар. Таджыкістан аказвае падтрымку практычна ўсім ініцыятывам Беларусі, выступіў суаўтарам шэрагу беларускіх рэзалюцый у ААН. Ад 30 сакавіка 2011 года ў Душанбэ дзейнічае Пасольства Рэспублікі Беларусь.




*Фота Кастуся Дробава.*

Матэрыяльныя сведчанні сяброўства двух народаў можна адшукаць у экспазіцыі Музея сучаснай беларускай дзяржаўнасці. Самы першы і таму асабліва каштоўны экспанат, які музей атрымаў у падарунак ад таджыкскага народа, — велічная дэкаратыўная ваза *(на здымку)*, аздобленая пазалотай і дароўным надпісам. А ў Прэзідэнцкай бібліятэцы на самым пачэсным месцы знаходзіцца кніга пра Прэзідэнта Таджыкістана Эмамалі Рахмона. Зараз гэта выданне і іншыя кнігі, якія былі падараваныя нашаму Прэзідэнту, можна пабачыць у спецыяльнай экспазіцыі ў Музеі сучаснай беларускай дзяржаўнасці. Там жа захоўваецца яшчэ адзін падарунак ад таджыкскага народа міністру культуры Рэспублікі Беларусь Барысу Святлову. Гэта дэкаратыўнае пано, выкананае ў тэхніцы кундаль з рэльефным раслінным малюнкам; у цэнтры — вялікая разетка з выявамі птушак. Пано было падаравана ў межах афіцыйнага візіту Прэзідэнта Таджыкістана Эмамалі Рахмона ў нашу краіну ў 2014 годзе.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

Нізом КАСІМ

## Вуліца вечнасці

Памяці Героя Савецкага Саюза
Дамуло Азізава прысвячаецца

*Мама, дзень добры, ў чаканні гняткім*
*дні і ночы,*
*Боль мой пачуўшы, ты праглядзела*
*ўсе вочы.*

*Богу вядома, як я па табе, па вачах*
*тваіх добрых сумую,*
*Рысы шукаю на тварах матуль*
*і знайсці не магу я.*

*Бачу я сэрцам: мацi зямлі ўсе падобныя*
*ў шчасці і ў горы,*
*Дзе б ні былі, яны ў думках з дзецьмі*
*заўсёды гавораць.*

*Да Перамогі з ворагам хіжым мне біцца,*
*Каб ты, мая родная, сынам магла*
*ганарыцца!*

*Я з Беларусі шлю табе вестачку*
*ў час наш суровы,*
*Не апісаць яе боль, а напішаш —*
*попелам стануцца словы.*

*Казачным раем гэта была старана,*
*Сэрцам адкрытым нас прывячала яна.*

*Ворага злоснага нішчыць народная сіла,*
*Гнеўная помста сэрца й маё апаліла.*

*Побач з братамі б'ёмся мы з ворагам*
*лютым,*
*Разам мы ў думках, разам змагаем*
*пакуты.*

*Сэрцы таджыкаў і беларусаў звязала*
*вайна,*
*Да Перамогі вядзе нас дарога адна!*

*Мяне абароніць ад ворага нетра лясная,*
*Кожная елка, нібыта сястрыца,*
*сабой захінае.*

*Чысты душою народ і краіну*
*яго адстаяць,*
*Дзеля свабоды і шчасця жыццё*
*не шкада мне аддаць.*

*Дзеля дзяцей і матуль беларускіх*
*памру я, як трэба,*
*І разлічуся крывёй за блакітнае*
*мірнае неба.*

*…Вось прамінула ўжо, мама,*
*аж шэсцьдзясят год з той пары.*
*Спелую ніву зноўку калышуць*
*пад небам вятры.*

*Сын твой, матуля, верны той клятве*
*сардэчнай,*
*Прах свой змяшаў ён з зямлёй беларускай*
*навечна.*
*Не, не сышоў у бязмоўе — вуліцай*
*мінскаю стаў,*
*Імя героя ўдзячна народ прывітаў…*

*Вуліцай гэтай з новаю сілай і верай*
*Рушаць ужо пакаленні другія наперад.*

*Гэтая вуліца больш не схаваецца ў дыме,*
*Помнікам будзе вернасці нашай Радзіме.*

*Гэтым праспектам шлях я пачаў*
*з Беларусі азёрнай,*
*І прывядзе ён мяне ў край радзімы*
*мой горны.*

*Гэты праспект пачынаецца*
*з вернасці клятве,*
*І пераходзіць ён, горны,*
*у Шлях Млечны зорны.*

**Пераклад Міколы МЯТЛІЦКАГА**

Гулрухсор САФІ

***

*Сярод лавіны снежны чалавек*
*Хаціну ўзводзіць і пад стаць ізгою:*
*«Я Крэпасць Адзінот сабе навек*
*З камення шэрага вось тут збудую.*
*Снег ёсць анёлаў слёзы і сірот,*
*І як падобны ён з маёй тугою…*
*Калі пад снегам рушыць дрэва ў ход,*
*Не як зазвычай, але двойчы ў год, —*
*Яго плады — дачасныя вясною...»*

**Літаратура Таджыкістана — гэта непаўторны свет, чысты, як горны ключ, глыбокі, як рака, і ўзнёслы, як вяршыня скалы. Сярод лірычных вершаў сучасных таджыкскіх паэтаў, якія рэдакцыя «ЛіМа» прапануе ўвазе чытачоў у перакладах на беларускую мову, — творы двух народных паэтаў Таджыкістана: Нізома Касіма, старшыні Саюза пісьменнікаў гэтай краіны, і Гулрухсор Сафі, а яшчэ — Ато Мірхаджа, Акбара Абдуло і Парды Хабіб. Гэтую нізку яскрава дапаўняе апавяданне Тахміны Эмін.**



***

*Паўсюдна падла, варанячы баль.*
*Снег — быццам кветнік белы, цнотны,*
*Хавае ўвесь ён попел, як кужаль...*
*Снег... — гэта плача мой анёл самотны.*

## Цень

*Сышла пара*
*Маіх трывог,*
*Злячылася ад маніі, на шчасце,*
*Схакалася*
*Пахвал, узнагарод*
*У бітве выжываннняў між напасцяў.*

*Жыву-існую ад зямлі здаля,*
*Як неба шыр асобна і зямля.*
*— Дзень добры, сонца!*
*Ці ж мяне ўзгадаеш?*
*Я — Цень,*
*Які ў табе лунае!*

## Дзеля цябе

*Дзеля цябе я ў гэты свет прыйшла.*
*Дзеля цябе, каб поруч быць з табою.*
*Каб немачы суцяліць сваёй мальбою,*
*Уратаваць і зберагчы ад зла,*
*І ў горкі час уцехай быць тваёю.*
*Дзеля цябе я ў гэты свет прыйшла.*

*Дзеля цябе я ў гэты свет прыйшла.*
*Адно паклікаў — рушыла насустрач.*
*Складаю гімн удзячнасці пачуццям:*
*За радасць і за боль, якімі я жыла,*
*І за любоў, як мілась, як рашучась.*
*Дзеля цябе я ў гэты свет прыйшла!*

*І да мяне цякла рака, цякла.*
*І высіліся горы над зямлёю,*
*І смерць спрачалася, як і раней, з любоўю.*
*Жыццё ўзгаралася, нібыта ад агню.*
*І ўсё, што ў свет прынесла я з сабою,*
*Усё было, было, ці ж я маню?! —*
*Дзеля цябе я ў гэты свет прыйшла.*

*Але калі я ў цяжар табе стану,*
*Зацягнецца і дагарыць датла*
*Усё наўкол ад крыўды, як туману,*
*Ад агнявіцы ў сэрцы, ад дурману, —*
*Сыду з дарогі з пачуццём святла!*

*Сыду — няскоранай і гордаю хадой,*
*З журботнымі, вільготнымі вачыма.*
*Слязьмі ўсё ж не азмрочу.*
*За плячыма*
*Пакіну ношу з горам і бядой.*
*Любоў адыдзе з талаю вадой.*
*Ды сэрцам чую холад, як знарок.*
*Ты промень, прад табою гіне мрок.*
*І калі дзеля цябе дадзена жыццё,*
*Аддам усё — хай сыдзе ў небыццё!*
*Дзеля цябе я ў гэты свет прыйшла!..*

**Пераклад Марыі КОБЕЦ**

Ато МІРХАДЖА

## Гэй, паэты!

*Гэй вы, паэты,*
*цягнеце мяне хто куды.*
*Сваімі звышпалымянымі словамі,*
*сваім прыдуманым болем*
*Штодня па тысячы разоў*
*мяне забіваеце.*
*Гэй вы, паэты!*
*Ёсць сярод вас для мяне месца?*
*Ці для саміх не хапае?*
*Панаствaралі паэм скрыгатлівых,*
*нібы канапы, —*
*З рознымі рытмамі, супернамёкамі,*
*Але што змянілася ў свеце?*
*Столькі чыталі натацый,*
*ды людзі тыя ж.*
*Расказвалі газелі, праточныя воды,*
*ды закаханыя тыя ж.*
*Выдумалі патрэбныя казкі,*
*але дзеці тыя ж….*
*І — да таго ж — не чытаюць вас…*
*Ну, а я вас чытаю, я вас ведаю ўсіх.*
*І таму ёсць пытанне:*
*Вы таксама вар'яцелі*
*ў прадчуванні ненапісанага верша,*
*Які складзены ўжо стагоддзі таму?*

## Хай хтосьці скажа: «Гэтак пацяплела!»

*…А шчочкі — як дзівосныя цюльпаны, —*
*Каханая мая пачырванела.*
*Ад жарсці мы згараем так агняна —*
*Хай хтосьці скажа: «Гэтак пацяплела!»*

*Пабегла кроў па жылах зухавата,*
*І сэрца, як агонь, запунсавела.*
*Душа гарыць, палае, быццам вата, —*
*Хай хтосьці скажа: «Гэтак пацяплела!»*

*Цуд-матылёк нязмушана крыляе,*
*Тваёй шчакі кранаецца нясмела.*
*Зноў пачуццё гарыць, не затухае —*
*Хай хтосьці скажа: «Гэтак пацяплела!»*

*І рукі развітацца не жадаюць,*
*І цела прытуляецца да цела…*
*А твар гарыць, і вусны аж палаюць —*
*Хай хтосьці скажа: «Гэтак пацяплела!»*

## Прабач!

*За слёзы твае ад жыццёвых пакутных*
*няўдач,*
*За горкія слёзы, як лёс наш нялёгкі,*
*прабач.*
*За тыя грахі, не пазбегла якіх на шляху,*
*За тыя няшчасці, якіх не схаваць у мяху.*
*Хто ведае сум твой настолькі,*
*як ведаю я?*
*Хіба толькі горла ды подлай*
*вяроўкі пятля.*
*Хто ведае боль твой, што сэрца з'ядае,*
*як тля?*
*Хіба што святло, што праз дым*
*пранікае здаля.*
*Мая галава на бялюткіх каленях тваіх,*
*Мая галава, што каханнем адсечана*
*ўміг…*
*За долю-нядолю, за гульні ў жыццё*
*ты прабач.*
*Мяне ўжо карае ўсясветная кара,*
*не плач.*
*І кат яе строгі стаіць нада мною,*
*як мім,*
*Ды быў я з табой, у табе, быў*
*навекі тваім.*
*І што мне сяброў ненажэрныя здрады,*
*праклён*
*У свеце, дзе ўсё ўжо вядома наперад*
*здавён,*
*У свеце дзе ўсё пралятае-нясецца*
*наўскач…*
*Прабач.*

**Пераклад Міколы ШАБОВІЧА**

Акбар АБДУЛО

## Вечныя пытанні

*Што такое — жыццё?*
*Гэта значыць — хадзіць па лёдзе,*
*Бегчы, падаць, пасля ўзлятаць,*
*Песню жыццю спяваючы —*
*У палёце.*

*Смерць — гэта што, скажы?*
*Гэта — спаць, есці, вастрыць нажы,*
*Зноўку есці, а потым спаць,*
*А іншага сэнсу жыцця —*
*Не знаць.*

## Далёка ад цябе

*Запалю для цябе каганец*
*У самотнай забытай хаціне.*
*Запалю, каб здалёку сагрэць*
*Твой пагляд, без якога я ўцінак.*

*Запалю для цябе каганец,*
*Каб цяплом адагрэлася сэрца,*
*Ён палае і будзе гарэць,*
*Каб з табою змаглі мы сустрэцца.*

## Вогнішча

*Калі ўначы агонь палае*
*І ў небе поўня зіхаціць,*
*Здаецца мне, што доля злая*
*У дом мой больш не заляціць.*

*Ты ўсім даеш цяпло, ды знаеш:*
*Яго цана — самоты тло,*
*Не дровы спальваеш — знішчаеш*
*У полымі людское зло.*

*Да рання вогнішча гадую,*
*Мацую крыўдамі агонь.*
*На золку салаўя пачую —*
*Каханай падару яго.*

**Пераклад Таццяны СІВЕЦ**

Парда ХАБІБ

## Сустрэча

*Пры стрэчы між намі кветка была,*
*Між двух закаханых сэрцаў.*
*Трымцела і водар пялёсткаў нясла*
*На крылах усходняга ветру.*

*Сваёй прыгажосцю падобна табе,*
*Хавала слёзы у росах.*
*І я захацеў у горы, журбе*
*Спазнаць свет твой ціхі, дзівосны.*

*Нам кветка тады бласлаўвенне дала,*
*З'яднала сэрцы і душы.*
*Дарогай жыцця ты мяне павяла,*
*Паломнікам быць тваім мушу.*

## Слова і краіна

*З Радзімай можаш ты пагаварыць,*
*Яна ўсё зразумее, быццам маці.*
*І трапяткое слова, што з душы,*
*У тлуме дзён не вынішчыць, не страціць.*

*Цяпло зямлі адчуць нагамі зноў,*
*Паслухаць звон вады яе струменяў…*
*На свята прыгажосці я прыйшоў*
*Любоў адмераць самай поўнай жменяй.*

*І ўспомніць запавет:*
*«Мой родны сыне,*
*Ты вінен адплаціць сваёй краіне!»*

**Пераклад Юліі АЛЕЙЧАНКА**

Тахміна ЭМІН

# Ноч без казкі

*Апавяданне*



Па доўгім, расфарбаваным у вясёлкавыя колеры калідоры дзіцячага садка, стукаючы тонкімі абцасікамі, ішла прыгожая дзяўчына. Праз вялікія вокны ў памяшканне траплялі першыя промні зімовага сонца. Нягледзячы на ранішнюю прахалоду і сцюдзёны ветрык, дзень меўся быць цёплым і ясным. Дзяўчына хуценька ўвайшла ў вялікую залу, аздобленую каляровымі шарамі і дзіцячымі малюнкамі. Яна запаліла святло і павесіла на вешалку шэрае зношанае паліто. Заўчасная смерць бацькі прымусіла яе адразу пасталець і ўзяць на свае плечы ўсю адказнасць за сям'ю. Маці пасля страты зусім разгубілася і пастарэла на вачах. Малодшай сястрычцы было ўсяго сем гадоў. Яна хадзіла ў першы клас і радавала старэйшую сястру сваімі поспехамі. Розія паспявала не толькі працаваць, але яшчэ і вучыцца ў педагагічным інстытуце, самастойна аплачваць уласнае навучанне.

Нарэшце Розія выйшла на ганак, каб сустрэць бацькоў, якія вялі за руку дзяцей. Прыйшла ўся сярэдняя група — васямнаццаць малых. Не было толькі пяцігадовага Сафара. «Спазняецца небарака. Сям'я такая... Відаць, зноў бацька выпіў і маці збіў», — падумала яна, кіруючыся з дзецьмі ў вялікі пакой.

Седзячы на дыване, дзеці гулялі з рознымі цацкамі, час ад часу спрачаючыся, каму ўзяць медзведзяня, а каму — машынку.

— Сумая, ідзі ў спальню і прынясі яшчэ цацак, што на паліцах, — загадала выхавальніца маленькай дзяўчынцы з тонкімі чорнымі коскамі.

Тая ўстала і падбегам накіравалася ў суседні пакой, але вярнулася ні з чым.

— Што здарылася? Ты не знайшла цацкі? — здзіўлена спытала Розія. Дзяўчынка асцярожна наблізілася да выхавальніцы і шэптам сказала той на вуха:

— Я не хацела пабудзіць Сафара. Ён там спіць ля дзвярэй...

Розія адразу ж ускочыла з месца і пабегла ў спальню. Ад таго, што ўбачыла, ледзь не страціла прытомнасць: у кутку, сціснуўшыся ў камячок, нерухома ляжаў хлопчык, ужо халодны, моцна трымаючы ў руках кніжку…

Учора, пасля паўдзённага сну, Сафар прачнуўся ўвесь у слязах, на лбе блішчэлі кропелькі поту. Ён сасніў жахлівы сон, і хоць не разумеў убачанае, аднак жа спалохаўся. Розія супакоіла хлопчыка і дапамагла яму апрануцца. Пасля дзеці разам з выхавальніцай выйшлі на дзіцячую пляцоўку. Бацькі забіралі дзяцей дамоў. Змяркалася. Розія ўсхвалявана глядзела на гадзіннік: ужо палова на шостую. Яна спяшалася дамоў: малодшая сястрычка трохі прыхварэла і не пайшла ў школу. Па дарозе на працу Розія купіла ў аптэцы гарачкапаніжальнае і цяпер спяшалася аднесці яго. «Там мама, відаць, ухадзілася з ёю», — думала яна, зноў пазіраючы на гадзіннік.

Засталіся толькі два малыя: Сафар і Мехроб. Розія пачакала яшчэ трохі і пачала не на жарт непакоіцца: «А раптам сястрычцы зрабілася горш? Можа, маці выклікала "хуткую дапамогу"?». На душы было неспакойна, трывожныя думкі не пакідалі яе. Яна пакінула дзяцей на вартаўніка, растлумачыла яму прычыну спешкі і нарэшце пайшла. Ах, каб яна толькі ведала…

Вартаўнік паўляжаў на канапе і глядзеў турэцкі серыял. Сівыя валасы і сутулаватая спіна сведчылі пра яго старэчы ўзрост. Ён зрэдку пазіраў на дзяцей, якія спакойна сядзелі на лаўцы ля дзвярэй. Малыя паводзілі сябе ціха, каб не турбаваць дзядзьку. А ён піў чай, уздыхаў і паўтараў: «Вось жа ўмеюць людзі прыгожа жыць!»

Сафар з цікавасцю разглядаў маленькую хацінку вартаўніка, убачыў стос старых газет і раптам успомніў, што пакінуў сваю кніжку на ложку. Ён устаў з лаўкі, асцярожна адчыніў дзверы і выйшаў з дамка. Вартаўнік нічога не заўважыў і па-ранейшаму глядзеў фільм. Сафар пабег праз пляцоўку да суседняга будынка і з грукатам адчыніў дзверы ў спальню. Вось яна, яго дарагая кніжка, ляжыць сабе спакойна на ложку. Як жа ён мог пра яе забыцца! Хлопчык схапіў кніжку, запхнуў яе пад куртку і зноў накіраваўся да дзвярэй. «Вось так, зараз будзе цёпла, я не дазволю табе змерзнуць», — шаптаў малы, звяртаючыся да сваёй кніжкі. Ён асцярожна пацягнуў ручку дзвярэй. Дзверы не адчыняліся. Хлопчык на хвіліну спалохаўся. Ён сабраў сілы і мацней пацягнуў за ручку. Але дзверы былі замкнёныя. Захоплены думкамі пра сваю кніжку, хлопчык не заўважыў, як увайшоў у пакой і зачыніў дзверы на клямку. Сафар ад страху пачаў плакаць, але адступаць не збіраўся. Ён усё тузаў замкнёныя дзверы. А раптам адчыняцца? Вось гэтым дзеці, відаць, і адрозніваюцца ад дарослых: не губляюць надзеі, вераць у цуд — да канца…

Мехроб пільна глядзеў у вакно. Праз брамку прайшлі дзве постаці. Мехроб адчыніў дзверы і выбег з хацінкі з радасным крыкам: «Мама! Тата!» Вартаўнік выйшаў следам. Ён павітаўся з бацькамі і, хутаючыся ў свой чапан, пайшоў назад, зноў лёг на канапу.

Сафар прыслухаўся да рэзкіх гукаў. Моцны вецер за акном ламаў слабыя галіны дрэў. Зоркі запальваліся, як маленькія лямпачкі, нагадваючы пра сябе. Хлопчык азірнуўся. Ён быў адзін-адзіноткі ў спальным пакоі дзіцячага садка, а вакол панавала нязвыклая цішыня. Не чулася ні дзіцячага смеху, ні крокаў, ні воклічаў, ні беганіны. Чаму гэтак вусцішна і цёмна? Чаму гэтак холадна? Чаму побач нікога няма? Ад страху ён схаваўся пад ложкам і расплакаўся.

— Мама?! Мама, дзе ты? Я хачу дамоў, мама! — хлопчык калаціўся ад страху, закрываючы твар далонямі і моўчкі ўсхліпваючы. Яму хацелася крычаць, крычаць на ўсё горла, каб мама яго пачула. Але ён баяўся: а што, як тата дачуецца? Той не любіў нэндзы і шалеў ад гэтага. Так хлопчык і навучыўся плакаць моўчкі. Мама заўсёды ўсміхалася, нават калі ёй было блага. Такое здаралася звычайна ўвечары. Мама рабілася белая, як Спячая Прыгажуня ў казцы. Трымаючыся за хворае сэрца, яна ішла ў іншы пакой, піла лекі і моўчкі сядзела ля акна. А часам лекі не дапамагалі, і тады яна выклікала «хуткую дапамогу». Але варта было Сафару падысці да яе са сваёй кніжкай, мама забывалася пра ўсё на свеце. Яна чытала яму казкі, а ён засынаў ля яе і сніў салодкія сны…

— Мама?! Дзе ты? Пачытай мне казку. Вось мая кніжка! Ты ж пазаклейвала яе, мама!...

Учора ў гэты самы час Сафар спакойна ляжаў у сваім ложку, а мама дачытвала апошнія радкі казкі. Злосны тата ўвайшоў у пакой.

— Што? Рабіць табе больш няма чаго? Я цябе чакаю ў спальным пакоі, а ты тут казкі чытаеш?! Ану, уставай, лайдачка!

Хлопчык у жаху апрытомнеў ад крыкаў. Бацька гвалтам цягнуў маці з пакоя. Сафар любіў сваю маму, любіў больш за ўсіх у свеце. І мама любіла яго — яе пяшчоту і клопаты ні з чым немагчыма было параўнаць. Хлопчык адразу ж злез з ложка і, хапаючыся за крысо яе сукенкі, выгукнуў:

— Не трэба. Не чапай маму! Прашу цябе, не бі яе…

Бацька адштурхнуў яго, малы стукнуўся галавой аб шафу і больш нічога не памятаў. Раніцай балела галава, а на падлозе ляжала пакамечаная і парваная на шматкі кніжка. Неўзабаве ў пакой увайшла мама і дапамагла яму апрануцца. Хлапчук заплакаў — не ад болю ў галаве і нават не ад крыўды: ён плакаў з-за страты сваёй адзінай кніжкі. Мама хуценька пазаклейвала старонкі, і толькі тады хлопчык супакоіўся. Ад маці чуўся слабы пах гару. Чаму ў іхнім доме заўсёды пануе гэты агідны пах? Нават у сне гэты пах пераследуе хлопчыка.

Бацька Сафара быў такім не заўсёды. Пасля заканчэння тэхнікума ён уладкаваўся на працу ў аддзел гарадскога электразабеспячэння, там сустрэў Гульджахон і адразу пакахаў яе. Яе бацькі былі супраць. «Надта ж ён ганарлівы. Сёння кахае, а заўтра знойдзе лепшую. Гэта тваё права, — з асуджэннем казалі яны. — Хочаш за яго — ідзі! Але калі аднойчы ён цябе кіне, нашы дзверы для цябе зачыненыя...»

І чаму яна тады іх не паслухалася? Праўда, па першым часе яны былі шчаслівымі, ні ў чым не ведалі патрэбы. Пасля нарадзіўся першынец. Бацька ў гэты час быў якраз у камандзіроўцы, хлопчыка назвалі Сафарам. Праз год Хасід звязаўся не з тымі людзьмі, пачаў ужываць спіртное, увесь час бавіў з «сябрамі». Яго звольнілі за прагулы і безадказнасць. Цяпер рабіў проста электрыкам, і яму часцяком даводзілася слухаць нараканні незадаволеных кліентаў і кіраўніцтва. Нервы былі зусім нікуды. Вяртаючыся дадому нападпітку, муж спаганяў злосць на жонцы. Ён адчуваў агіду да жыцця, да працы, да жонкі, да ўсяго наваколля і нават да самога сябе. А жонка ўсё трывала. Што яшчэ было рабіць? Гульджахон неаднойчы хацела пазбіраць свае рэчы і з'ехаць на вёску да бацькоў, але саромелася і баялася, што яны не пусцяць яе на парог. «Як пагляджу ім у вочы? Што скажу?» — думала яна штораз, адмаўляючыся ад свайго намеру. Думкі пра будучыню сына таксама стрымлівалі ад паспешлівых рашэнняў — Сафарджона ж будуць клікаць бязбацькавічам.

Хлопчык не наважваўся называць бацьку дрэнным — маці даводзіла яму супрацьлеглае.

— Тата вельмі стамляецца. У яго злосны начальнік. Але неўзабаве ён знойдзе іншую працу, і тады ў нас усё будзе добра, — шчыра абяцала маці, і хлопчык марыў пра гэты дзень. Ён марыў пра меч і каня — такога самага, як у Рустама з казак «Шахнамэ»: вось памчацца б на ім да таты і адрубіць галаву начальніку! Гэты гераічны ўчынак назаўсёды ўратаваў бы маці ад моцных кулакоў. А пасля Сафар пасадзіў бы яе на каня і разам паляцелі ў іншую краіну. У краіну, дзе заўсёды свеціць сонца, бясплатна раздаюць марожанае, а казкі ніколі не заканчваюцца.

Такія думкі зрабілі хлопчыка смялейшым. Ён вылез з-пад ложка і зноў накіраваўся да дзвярэй. Але яны былі замкнёныя. Сафар клікаў на дапамогу, але ніхто не адгукнуўся. Ён крычаў на ўсё горла, але ў адказ чуў толькі ўласнае рэха. Хлопчык сеў ля дзвярэй і выцягнуў з-пад курткі кніжку. Але тут яго ахапіла пачуццё адзіноты і бездапаможнасці: ён жа не ўмее чытаць. І зноў пачаў плакаць. Потым лёг, не выпускаючы кніжку з рук. Чаму гэтак холадна? Чаму гэтак страшна і цёмна? Чаму ўсіх дзяцей забралі бацькі, а пра яго мама забылася? Чаму сёння ён засынае без казкі? Горкія слёзы крыўды і пакуты сціскалі горла.

Ён не ведаў, што мама пра яго ніколі б не забылася. Знайшла б яго дзе заўгодна і схавала ў сваіх цёплых абдымках… Раніцай, пасля таго як яна вярнулася з садка, бацька зноў узяўся высвятляць адносіны, пасля кінуўся на яе з кулакамі. Маўляў, ты сына падбухторваеш супраць мяне. Гульджахон прасіла прабачэння і прапанавала развесціся — абаім зрабілася б лягчэй. Але мужу гэта зусім не спадабалася, ён абвінаваціў яе ў здрадзе: маўляў, знайшла каго іншага. Ад знявагі і прыніжэння ў жанчыны адняло мову, а муж усё біў і біў... Жыццё павольна праплывала перад яе вачыма. Яна змоўкла, а пасля чарговага ўдару павалілася на падлогу. Муж бурчаў яшчэ некаторы час, быццам нічога не здарылася. Тады паабяцаў, што ажэніцца з іншай кабетай, і пайшоў прэч: вечар ён меўся правесці з жанчынай і дадому вяртацца не збіраўся…

Прадаўшчыца малака, якая выпадкова апынулася побач, выклікала «хуткую дапамогу». Гульджахон адвезлі ў бальніцу. Яна была ў коме…

Час нібыта спыніўся. Сафар ужо не памятаў, колькі тут ляжыць. За акном паступова пачало віднець. Беглі хвіліны, гадзіны. Нядзельная раніца паступова ператварылася ў прывідны вечар. Зноў вярнуліся цемра і холад. У хлопчыка знямелі ногі. Распухлыя ад слёз вочы ледзь адкрываліся, а голас зусім знік. Сафар ледзь чутна прамаўляў: «Мама». Але мама яго пачула. Яна з'явілася ў кутку — збялелая, у белай, як снег, сукенцы. Асцярожна наблізілася да хлопчыка, прытуліла яго да сябе і, лашчачы па галаве, шэптам прамовіла: «Я пачытаю табе казку, Сафарджон. Чуеш? Я табе яе пачытаю». І ціха пачала свой аповед.

Але нічога гэтага хлопчык ужо не чуў. Ён даўно паляцеў у іншую краіну — туды, дзе заўсёды свеціць сонца, бясплатна раздаюць марожанае, а казкі ніколі не заканчваюцца…

Пераклад
Ірыны КАЧАТКОВАЙ

# З горнай мовы — на мову далін



Яшчэ з канца 1990-х Ірына Качаткова займаецца літаратурным перакладам, перастварае творы беларускіх аўтараў на рускую мову (Вольга Іпатава, Георгій Марчук, Раіса Баравікова, Алесь Камароўскі, Людка Сільнова, Леанід Левановіч ды інш.), а таксама знаёміць чытача з замежнымі аўтарамі (Аскар Акаеў, Майрам Акаева, Станіслаў Куняеў…). Значыцца ў гэтым спісе і Ато Хамдам — таджыкскі празаік, драматург (п'есы прынеслі яму найбольшую славу). Ірына Качаткова пераклала не адзін твор: па-беларуску загучала цэлая серыя навел і апавяданняў Ато Хамдама, што склала кнігу «Жыццё не спыняецца».

**— Да творчасці Ато Хамдама вы звярнуліся праз уласную зацікаўленасць ці так склаліся абставіны?**

— Звёў нас лёс: ён прыехаў у Мінск на штогадовую кніжную выстаўку, а стэнды Саюза пісьменнікаў Беларусі і таджыкскіх пісьменнікаў знаходзіліся побач. Спачатку Ато Хамдам прапанаваў колькі сваіх твораў на прачытанне; потым звярнуўся з прапановай перакласці п'есу «Начны званок». Даволі цікавы твор, і ў перакладзе ён з'явіўся ў часопісе «Полымя». Затым «ЛіМ» надрукаваў апавяданні Ато Хамдама ў маіх перакладах, яшчэ пазней пачалася праца над кнігай «Жыццё не спыняецца». На сёння апошняя наша работа — кніга «Подзвіг Эмамалі Рахмона», якую Ато Хамдам напісаў сумесна з Леанідам Чыгрынам.

**— Перакладчык як ніхто іншы пранікаецца творам, з якім працуе. Цікава, якія адметныя рысы прозы Ато Хамдама маглі б вылучыць вы?**

— У яго вельмі добрая, вельмі чалавечная проза. Ён заклапочаны станам чалавечай душы ў нашыя дні, калі адбываюцца грамадскія зрухі, не заўсёды добрыя для псіхікі чалавека. Ён турбуецца пра захаванне чалавечай спагады. Пра лёс дзіцяці, якому не надаюць увагі і якое патрапіла ў складаныя сямейныя абставіны... Прыкладам, навела «Дзікуны». Гаворка ідзе пра маленькага хлопчыка, ён жыве з маці, у страшнай беднасці. Стараецца дапамагчы маці і падрабляе на кірмашы. Ато Хамдам апісвае крыўды хлопчыка, яго прыніжэнне, але заўсёды знаходзяцца людзі, якія дапамогуць малому, падбадзёрыць. Так з'яўляецца надзея, што хлопчык вырасце, і вырасце добрым чалавекам, нягледзячы на ўсе перашкоды.

**— Ці можна, ведаючы творы Ато Хамдама, зразумець таджыкскі менталітэт?**

— Я не ведаю душу гэтага народа глыбока. Але, мяркуючы па мастацкай літаратуры, таджыкі — вельмі добры, гасцінны і таленавіты народ. Яму давялося шмат у сваёй гісторыі перажыць, і, відома, яго гісторыя адрозная ад нашай: мы ў дачыненні да іх — Захад, яны для нас — глыбокі Усход. Далёка не заўсёды супадаюць нашыя думкі і светаадчуванне. Гэта народ, які хоча жыць на сваёй зямлі, імкнецца да дабрабыту.

**— У таджыкскай літаратуры дом — вельмі значны сімвал.**

— Сапраўды, дом мае сакральнае значэнне. Усё іх жыццё будуецца вакол дома. Прычым гэта не толькі твая кватэра, але двор, суседзі, знаёмыя, вуліца, горад — усё Дом. І думкі людзей, якія цябе акаляюць, маюць вельмі важнае значэнне. Пра гэта ў Ато Хамдама таксама ёсць навела: малады журналіст публікуе тэкст, які абурае ўсіх яго суседзяў, і юнак стараецца з імі паразумецца, бо яны для яго — тая ж сям'я. Мы ж такія стасункі з навакольнымі згубілі. Быць можа, наступствы глабалізацыі…

**— Ці прыкмецілі вы падабенства паміж прозай Ато Хамдама і якога-небудзь беларускага аўтара?**

— Тут зноў-такі адчуваецца розніца менталітэтаў: мы людзі даліны, яны людзі гор. У Хамдама ёсць апавяданне «Масхарабоз» (клоўн, блазан). Гаворка ідзе пра каханне. Масхарабозам выступае



Фота Кастуся Драбава.

звычайны чалавек, шафёр, чыя каханая засталася ў гарах, выйшла замуж — і не надта шчаслівая. Так збягаюцца абставіны, што гэты самы шафёр, як кажуць, на вузкай сцяжыне, сустракаецца з сапернікам. Ён змог бы пазбавіцца ворага, проста не ўмешваючыся ў абставіны. Але — не змог. Нягледзячы на сваё каханне, уратаваў мужа любай жанчыны. І вось што мяне здзівіла… Калі б на іх месцы апынуліся беларускія мужчыны, мне здаецца, яны б паразумеліся і сталі прыяцелямі. Але ж не: ўратаваны са злосцю сказаў, што ніякага паразумення быць не можа, што яны застануцца ворагамі. Мне зноў жа здаецца, што гэта розніца менталітэтаў.

**— Вы зазвычай перакладаеце праз «пасрэдніка» — рускую мову…**

— Гістарычныя абставіны так складваліся, што вельмі доўга мы карысталіся то польскай, то рускай. Нашыя аўтары пісалі і па-руску, і па-польску, і на іўрыце, і ўсё гэта — беларуская літаратура. Я прагледзела выданні савецкага часу: большасць перакладаў — з рускай мовы. Выдатна, калі працуюць з мовай-арыгіналам, але патрэбныя сродкі і няма часу, каб падрыхтаваць кадры. Пакуль склалася так, і адпрэчваць гэта не трэба. Гэтаксама трэба перакладаць на беларускую мову тыя творы, што даўно вядомыя ў рускамоўных перакладах, гэта толькі ўзбагаціць нашую культуру.

**— Ці існуюць для вас як перакладчыка абавязковыя правілы работы?**

— Я спрабую зразумець аўтарскую душу, тое, што ён хацеў сказаць не толькі словам, але і маўчаннем, паўзамі. Затым стараюся перадаць аўтара па-беларуску, але з яго характэрнымі рысамі, яго светапоглядам і мысленнем, каб ён і ў перакладзе на беларускую застаўся, напрыклад, таджыкскім аўтарам.

**— Перакладаць з рускай на беларускую і наадварот быццам бы проста, але ў той жа час вядома, што якраз перастварэнні між роднаснымі мовамі даволі складаныя... Што вы можаце сказаць на гэты конт?**

— Пры ўсёй блізкасці мовы розныя. Я б сказала нават болей: пры ўсёй блізкасці і народы розныя. Мы больш закрытыя людзі, любім замкнёную прастору, ахінутыя балотам, лесам, полем. У Расіі тое ж поле — неабсяжнае: ад гарызонта да гарызонта.

**— Як пісьменнік вы звяртаецеся да гісторыі Мінска…**

— Гэта бывае не так часта, але, сапраўды, мяне цікавіць гісторыя горада, дзе я пражыла ўсё жыццё. Мінск 1950 — 60-х — зусім іншы, чым цяпер. Там, як у Хамдама, суседзі былі роднымі. Я жыла на Ленінскай, і ўсе прылеглыя вуліцы былі «сваімі». Ты ведаў не толькі блізкіх суседзяў, але ўсіх, з кім сташ па прыпынку, з кім ходзіш па вуліцы, у адну краму, добра ведаеш урача з паліклінікі, настаўніка з суседняй школы… Тады была больш цёплая атмасфера. Цяпер горад моцна разросся. У маім дзяцінстве Камароўка была ўскраінай. Парк Чалюскінцаў месціўся ўжо за горадам, туды не надта і транспарт хадзіў. Калі па нашай вуліцы раз на дзень праязджаў грузавік, гэта было свята для дзяцей. Цяпер па Ленінскай — несупынная плынь машын. Людзі, часы — усё змяняецца.

**— Хто з аўтараў, якіх вы перакладалі, стаўся для вас самым яркім, запамінальным? У тым ліку, быць можа, праз цяжкасць, з якою даліся яго творы?..**

— Вядома, кожны аўтар робіцца сваім, родным чалавекам, чые творы прыносяць задавальненне, і кожны тэкст мае свае складанасці, нікога не лёгка перакладаць. Але з найбольшым задавальненнем чытаю гістарычныя тэксты, прыкладам, Аскара Акаева. Гэта, пэўна, адзіны момант, які вылучае адныя пераклады між усіх іншых.

**— Што, на вашую думку, галоўнае ў працы перакладчыка?**

— Галоўная задача — захаваць добрыя стасункі між рознымі народамі, калі яны ёсць. Калі ж такіх адносін няма, пастарацца іх наладзіць. Мы жывём у вельмі складаны час, і ўсе хочам жыць добра і шчасліва, каб нічога нам не пагражала. А для гэтага трэба найперш паразумецца. Усталяванне яго — галоўная задача літаратурнага перакладчыка. Увогуле пісьменнік, атрымаўшы ад Бога талент, мусіць быць на свой манер дыпламатам. Правільна кажуць: мы не ведаем, як адгукнецца наша слова. Хацелася б, каб яно адгукнулася дабром.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Стыхія слова

Што і казаць: пра таджыкскую літаратуру, як і ў цэлым краін былога СССР, неспецыялісты ведаюць мала. Выправіць сітуацыю ў свой час узяўся Выдавецкі дом «Звязда», здзейсніўшы праект «Сугучча сэрцаў». Сярод адзінаццаці кніг, падрыхтаваных у межах праекта, была і «Светлая далеч»: зборнік змясціў творы беларускіх і таджыкскіх аўтараў.

Адметнасці таджыкскай літаратуры коратка можна адзначыць наступным чынам: лаканічны стыль у прозе; цэнтральны сімвал — Дом, знак сямейных каштоўнасцей і старой традыцыі; паэзія звязаная з прыродай, для яе характэрныя рэфрэны, а калі гаворка заходзіць пра каханне, выяўляецца непадробная, часам нават спапяляючая жарсць (асабліва ў творах паэтэс).

Пра Дом піша Абдулхамід Самадаў у аповедзе «Цар-калона». Ён раскрывае канфлікт старых (як носьбітаў традыцыі) і моладзі, якая пераняла заходні тып мыслення, выказвае занепакоенасць тым, якім легкадумным стала грамадства. Дом тут складаецца з аднаго вялікага пакоя — сімвал яднання людзей, адкрытасці адно аднаму. Але моладзь пажадала размежаваць пакой сценамі… Цікава, што гэты ж сімвал сустракаецца і ў паэзіі (Камол Насруло).

На сацыяльныя праблемы звяртае ўвагу Караматула Мірзо. «Завушніцы» — адзін з найбольш яркіх твораў у зборніку: сказ тут даволі разняволены, карцінка — выразная. Дый сюжэт аповеду не чужы беларускай літаратуры: вайна, голад, хлопчык ідзе па хлеб і гіне, але ратуе сясцёр (згадаць хоць бы Лідзію Арабей з яе маленькай Нінай, якая ўзімку, праз лес і нямецкія заставы, ідзе выменьваць на ежу вопратку).

Таджыкскія аўтары вельмі ўважлівыя да праблем маралі і не судзяць адназначна. Прыкладам, Мехмон Бахці апісвае наркагандляра — які нават не разумее, што чыніць зло, і таму вобраз яго не тыпова адмоўны. Героя мы застаём у пераломны момант.

Зусім асаблівае апавяданне Джанібека Акабіра «Цень кажана». Збольшага прадстаўленыя ў кнізе празаікі глядзяць на свет збоку, яны назіральнікі, у якіх ёсць пэўныя маральныя ўстаноўкі. Але не Джанібек Акабір: ён усю ўвагу звяртае на ўнутраны свет героя, і ў яго мастацкай прасторы не існуе пэўнай мяжы паміж рэальнасцю і фантазіяй. Тут відавочны ўплыў заходнееўрапейскай літаратуры. Нават сямейныя сувязі ставяцца пад пытанне, а аўтарскі маналог вядзецца нароўні з аповедам.

Ато Хамдам звыкла дабрадушны і сцвярджае сямейныя каштоўнасці. А вось Мансур Суруш абірае іранічную інтанацыю і разам з героем выносіць прысуд грамадству, дзе ніхто нікому не давярае, не верыць у дабрыню: «Эх вы! Папяровыя душы!»

Што да паэзіі, незабыўным, самабытным аўтарам бачыцца Гулназар Келдзі. Яго вершы поўныя пачуцця, але не састылага, а жывога: сам верш — пачуццё, яркі сполах, зафіксаваны ў тонкім, вострым, вывераным радку.

Увогуле, таджыкскім паэтам уласцівы чаканны, інтанацыйна завершаны радок. Таксама традыцыйная любоў і разуменне прыроды. Паэзія сама паўстае прыроднай стыхіяй, знітоўваецца з пачуццямі чалавека (Лоік Шэралі, Нізом Касім). Агульнае для вершаў беларускіх і таджыкскіх — пашана да мовы і Радзімы, якая выказваецца ўрачыста, нават пафасна (Мумін Канаат, Аскар Хакім, Сяргей Сухаян). Але напоўніцу талент паэтаў раскрываецца ў інтымнай лірыцы. Жанчыны тут паказваюць сябе адданымі, самаахвярнымі; вершы іх — альбо стрыманыя, і ў стрыманасці гэтай адчуваецца жарсць (Маўджуда Хакімава), альбо парывістыя ці пяшчотныя, і тут усё навідавоку (Зульфія Атаі, Гулрухсор Сафі, Рано Мубарыз і асабліва — Фарзона). Адно можна сказаць пэўна: жанчыны-паэтэсы, як таджыкскія, так і беларускія, больш бясстрашныя за мужчын і менш звяртаюць увагу на сябе самое — іх паглынаюць пачуцці.

# Вясна на ўсходні лад

**У той час як беларусы святкуюць Масленіцу і гукаюць вясну, іранскія і цюркскія народы адзначаюць Наўруз — свята вясновага абнаўлення. У Беларусі таксама ёсць ахвочыя сустрэць вясну па ўсходнім узоры. У краіне жыве каля 2000 таджыкаў, для якіх Наўруз — адзін з самых доўгачаканых і яркіх свят. Пра народныя традыцыі, якія аб'ядноўваюць прадстаўнікоў таджыкскай дыяспары, распавялі старшыня Міжнароднага грамадскага аб'яднання таджыкаў «Саманіён» Джумабой Бабаджонаў і кіраўнік музычнага калектыву Дадзіхуда Саідаў.**

Народныя традыцыі застаюцца для таджыкаў больш значнымі, чым для сучасных беларусаў. Як сотні гадоў таму, жанчыны гэтай горнай краіны часта спяваюць разам, адбіваючы на бубне-дойры вядомую мелодыю, а моладзь апранае да свят народныя касцюмы. Нацыянальныя танцы, знаёмыя з дзяцінства песні, гучанне народных інструментаў — менавіта такім павінна быць сапраўднае таджыкскае свята, нават калі яно ладзіцца ў Мінску. Беларусы і госці нашай краіны знаёмяцца з таджыкскай культурай дзякуючы музычнаму калектыву, які дзейнічае пры пасольстве Таджыкістана больш за дзесяць гадоў. «Мы імкнёмся актыўна выступаць на беларускіх канцэртах і фестывалях, каб прадставіць нашу культуру. Культура — галоўнае, што стварае нацыю, а народная музыка заўсёды прысутнічае ў жыцці таджыкаў», — адзначае Дадзіхуда Саідаў.

Ансамбль мае некалькі дзясяткаў народных інструментаў: гэта духавыя тутак і сурнай, ударныя таблы і дойры, струнныя шчыпковыя інструменты тар, сітар, рубаб. Мясцовыя майстры вырабляюць іх уручную з прыродных матэрыялаў і самі з'яўляюцца выдатнымі музыкамі.


Фота Кастуся Дробава.

*Джумабой Бабаджонаў (справа) і Дадзіхуда Саідаў у народных таджыкскіх строях.*

Таджыкскае свята немагчымае і без народных строяў, шчодра ўпрыгожаных вышыўкай. Цікавы элемент мужчынскага строю — міёнбанд, пасавая хустка з яркім арнаментам па перыметры, якую надзяваюць на халат. Ткацтва і ўпрыгожванне адзення застаюцца распаўсюджанымі заняткамі таджыкскіх жанчын. Яны дагэтуль умеюць фарбаваць ніткі і тканіну натуральнымі фарбамі з раслін і горных парод. Вырабы таджыкскіх майстрых запатрабаваныя аматарамі з розных краін свету. Халат, упрыгожаны ручной вышыўкай можа каштаваць каля 500$! Таксама карыстаюцца папулярнасцю лёгкія і гладкія самаробныя кілімы, ваўняныя валяныя дываны ручной работы. Насценныя дываны сюзані — абавязковы падарунак маладым — ахоўваюць сем'і ад нягод і ў зашыфраваным выглядзе ўтрымліваюць добрыя пажаданні.

Таджычкі са створанага пры пасольстве жаночага клуба «Банувоні точік» працягваюць народныя традыцыі — найперш гатуюць стравы нацыянальнай кухні, якую немагчыма ўявіць без плову і мантаў. Да Наўруза ў Таджыкістане жанчыны абавязкова гатуюць суманак — страву з прарошчанай пшаніцы, якую вараць у казане 14 гадзін і няспынна перамешваюць. Вясновае свята (пачатак новага года па ўсходнім календары) адзначаецца 21 сакавіка — у дзень вясновага раўнадзенства. Каб усе паспелі прыгатаваць суманак і сабрацца з сям'ёй за святочным сталом, 21 — 24 сакавіка — выхадныя. Дарэчы, Наўруз уключаны ЮНЕСКА ў Рэпрэзентатыўны спіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны чалавецтва.

Вясной адзначаюцца яшчэ два прыгожыя святы: свята пралесак і свята цюльпанаў. З'яўленне пралесак — бясспрэчны доказ пачатку вясны — спрадвеку было для таджыкаў нагодай вялікай радасці. Дзеці збіралі першыя пралескі для жанчын і наўзамен атрымлівалі пачастункі, а ўвечары сям'я збіралася на адмысловы традыцыйны плоў. Неўзабаве пасля Наўруза ў гарах пачынаюць квітнець цюльпаны. Прыгажосць горных далін уражвае так, што таджыкі ладзяць свята цюльпанаў, якое супадае па часе са зборам першага ўраджаю. Да свята пякуць адмысловыя піражкі — самсу з мятай, якую напярэдадні збіраюць усёй сям'ёй на ўзбярэжжы рэк. Адбываюцца і спаборніцтвы ў нацыянальным відзе спорту — «гушцінгіры» — своеасаблівай грэка-рымскай барацьбе.

Пераважная большасць таджыкаў — мусульмане, таму мусульманскія святы адзначаюцца ў краіне вельмі шырока. Ісламізацыя Таджыкістана распачалася ў VII стагоддзі — у выніку далучэння тэрыторыі да Арабскага Халіфата. Да таго часу пануючай рэлігіяй быў зараастрызм. Высакагорныя раёны Таджыкістана прынялі іслам яшчэ на некалькі стагоддзяў пазней, таму жанчыны ў горных кішлаках не насілі паранджу. Гэты від жаночых галаўных накідак лічыцца нетрадыцыйным для Цэнтральнай Азіі.

Аб'яднанне таджыкаў у Беларусі адзначае не толькі Наўруз (старажытнае даісламскае свята), але і іншыя значныя даты: Міжнародны жаночы дзень, Дзень Незалежнасці Таджыкістана (9 верасня) і Дзень нацыянальнага замірэння (27 чэрвеня), зацверджаны ў памяць заканчэння грамадзянскай вайны 1993 — 1998 гг. як даніна памяці народнаму адзінству і мудрасці народа Таджыкістана і палітычнага кіраўніцтва краіны.

Прадстаўнікі дыяспары збіраюцца і з нагоды значных падзей прыватнага жыцця, самае радаснае з якіх, вядома, вяселле. Традыцыйнае таджыкскае вяселле святкуецца некалькі дзён і складаецца са шматлікіх цікавых цырымоній і рытуалаў. Нават калі ў Беларусі свята не адпавядае ўсім традыцыйным правілам, гэта добрая нагода ўзгадаць разам з суайчыннікамі нацыянальныя звычаі і абрады.

«Лад жыцця ў беларускіх гарадах прыкметна адрозніваецца ад ладу жыцця ў паселішчах горнага Таджыкістана, — адзначае Джумабой Бабаджонаў. — У Беларусі людзі абіраюць больш сучасны стыль жыцця, але сустрэчы ў нашым грамадскім аб'яднанні дапамагаюць таджыкам адчуваць сябе супольнасцю і не забывацца на культуру роднай краіны».

**Юлія ШПАКОВА**

## Фотафакт

Студэнтка БДУ з Таджыкістана прадстаўляе сваю краіну на выстаўцы «Жанчыны свету ў нацыянальнай вопратцы» ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. У экспазіцыю ўвайшлі лялькі з асабістых калекцый супрацоўніц БДУ, Інфармацыйнага цэнтра японскай культуры ў Мінску, а таксама дэманстраваліся касцюмы на прыгожых мадэлях. Вонкавае аблічча юнай модніцы адпавядала ад традыцыйных таджыкскіх строяў, бо цэлы камплект жаночага адзення складаўся з кашулі — сукенкі (курта), лёгкага халата (мунісак), хустак (карэ), штаноў (эзор), а таксама галаўнога ўбора цюбецейкі, ботаў. На дзяўчыне — доўгая сукенка з гладкай бліскучай тканіны (накшталт атласу) на сучасны манер, аздобленая багатымі ўзорамі. Таджыкскія жанчыны любяць яркае, з мноствам упрыгожванняў і вышыўкай, розныя матывы якой, дарэчы, часта маюць значэнне абярэгаў.


Фота Марыі Войцік.

# Культуры і людзі

Сёння Беларусь і Таджыкістан звязваюць стасункі ў палітычнай сферы, гандлёва-эканамічнае супрацоўніцтва. Хоць паміж краінамі вялікая адлегласць, але сяброўскія сувязі аднаўляюцца апошнім часам.

Таджыкістан — адзін з сяброў нашай краіны ў Сярэдняй Азіі. А сяброў хочацца зразумець лепш. У гэтым дапамагае культура, кантакты паміж творцамі нашых краін. І сяброўскія візіты ў госці. Напрыклад, Дні культуры Беларусі ў Таджыкістане апошні раз прайшлі восенню мінулага года. Беларусь паказала частку сваёй нацыянальнай культуры, у тым ліку фільмы, створаныя ў апошнія гады.

Сёння Беларусь дапамагае Таджыкістану ў адукацыйнай сферы: у розных вышэйшых навучальных установах краіны вучацца таджыкскія студэнты. У тым ліку рыхтуюцца спецыялісты і для сферы культуры. У Таджыкістане традыцыйна цікавяцца музычным мастацтвам, а оперны тэатр у Душанбэ здабыў славу аднаго з моцных тэатраў яшчэ ў часы СССР. Дарэчы, там шмат спектакляў аформіў як сцэнограф выдатны тэатральны мастак Яўген Чамадураў, які потым працаваў у Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры Беларусі. Ёсць яшчэ адна важная лінія сяброўства — на ўзроўні чалавечых кантактаў. Сярод грамадзян Беларусі ёсць асобы таджыкскага паходжання, якія носяць у сэрцы сваю радзіму, але працуюць на карысць нашай краіны. Напрыклад, вядомы кінарэжысёр Маргарыта Касымава, прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, зняла на «Беларусьфільме» такія карціны, як «Аз вааддам», «Глыбокая плынь» паводле твора Івана Шамякіна, «Спакуса», дзіцячыя фільмы «Маленькі баец», «Зорка Венера», «Бальная сукенка», здабыўшы для нашай краіны прызы міжнародных кінафестываляў. Летась была ўзнагароджана Ордэнам Францыска Скарыны. Вялікі ўнёсак у беларускую навуку зрабіў Мустафо Асімаў, доктар фізіка-матэматычных навук, спецыяліст у галіне прымянення лазераў у медыцыне, аўтар больш як 200 навуковых прац і вынаходніцтваў.

З культурай Таджыкістана ёсць магчымасць пазнаёміцца падчас Мінскіх міжнародных выставак-кірмашоў, дзе прадстаўляюцца сучасныя кнігі краіны. Таджыкістан павінен нанесці візіт «у адказ», прадставіўшы Дні культуры ў Беларусі, магчыма, ужо ў 2016 годзе.

# У гонар віцэ-прэзідэнта

## Цёплыя ўспаміны пра Кандрата Крапіву дапоўнілі навукоўцаў

**Напярэдадні 120-годдзя з дня нараджэння Кандрата Крапівы ў Цэнтры даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі прайшла міжнародная навуковая канферэнцыя «Беларуская літаратура ў культурнай прасторы сучаснага грамадства». Беларускія, украінскія і польскія даследчыкі звярнуліся да творчасці пісьменнікаў XX — XXI стагоддзя і разгледзелі шырокі спектр праблем. Пленарнае пасяджэнне і праца некалькіх секцый былі прысвечаны літаратурнай спадчыне, грамадскай і навуковай дзейнасці Кандрата Атраховіча. На канферэнцыю завіталі сваякі пісьменніка — нявестка Зоя Атраховіч і ўнучка Алена Атраховіч. Успаміны пра Кандрата Кандратавіча аздобілі сур'ёзныя выступленні навукоўцаў.**

### У ЖЫЦЦІ

Кандрат Крапіва на працягу 25 гадоў займаў пасаду віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук БССР. Але гэта быў не толькі чалавек працы, але і чалавек сям'і. Для савецкага пісьменніка стасункі з калегамі не абмяжоўваліся сценамі кабінета, а працягваліся дома, на дачы, у доме творчасці... Жонка Кандрата Крапівы Алена Канстанцінаўна выдатна гатавала беларускія стравы, таму пісьменнікі любілі наведваць яго кватэру. «Кандрат Кандратавіч з кожным знаходзіў агульную тэму, з кожным меў асаблівую манеру паводзін, — згадвае Зоя Атраховіч. — Ён быў выдатным псіхолагам, меў тонкі падыход да людзей. Дома гэта быў абсалютна адкрыты чалавек, з гумарам. З ім было весела і проста».

Зоя Мікалаеўна жыла ў доме пісьменніка 40 гадоў, таму добра ведае звычкі і захапленні свёкра. Кандрат Крапіва быў аматарам шахмат і прапаноўваў кожнаму, хто завітваў, згуляць некалькі партый. У пасляваенны час Кандрат Кандратавіч вырошчваў на невялічкім агародзіку памідоры, а калі займеў дачны ўчастак, — і кукурузу. Пісьменнік вельмі сябраваў з Пятром Глебкам і Петрусём Броўкам. Іх дачы знаходзіліся побач, і творцы любілі штодня разам аглядаць агароды.

Унучка пісьменніка Алена Атраховіч згадала рамантычную гісторыю кахання маладога афіцэра царскай арміі і гімназісткі Кацярыны з горада Асташкава. Бацька Кацярыны быў купцом і не даў дазволу на шлюб, але калі Кандрат Крапіва стаў вядомым пісьменнікам, Кацярына даслала яму ліст — у выніку іх перапіска доўжылася да глыбокай старасці.

Цёплыя і шчырыя пачуцці звязвалі Кандрата Крапіву і яго жонку Алену Канстанцінаўну. З думкай пра спадарожніцу жыцця драматург пісаў п'есу «Брама неўміручасці» (1973). Задума твора прыйшла, калі Алена Канстанцінаўна ўжо пакінула свет. Па словах Алены Ігараўны, маладая жонка была прататыпам вобраза Зосі ў рамане «Мядзведзічы» (1932). Выяўленая ў творы нядобразычлівасць свёкра і свекрыві да нявесткі, верагодна, мела месца і ў жыцці маладой сям'і.

Алена Канстанцінаўна была дачкой пагарэльцаў, якія жылі ў вёсцы побач з Нізком. Дзяўчына не мела пасагу, таму Кандрат Атраховіч-старэйшы не ўзрадаваўся выбару сына. Маўклівая і сціплая маці будучага пісьменніка памерла, калі хлапчуку споўнілася 10 гадоў. Мачыха Домна — моцная, цягавітая, але не вельмі лагодная жанчына — ставілася да пасынка непрыхільна і найбольш злавалася на яго за любоў да кніг. «Чытанне — панскі занятак. З кніг хлеба есці не будзеш», — лічыла яна. Адносіны між мачыхай і пасынкам так і засталіся непрыязнымі. Магчыма, з гэтай прычыны Зосіна свякроўка выяўлена ў «Мядзведзічах» як надзвычай непрыветлівая і злосная кабета.

Зрэшты, пасля службы ў Чырвонай Арміі Кандрат Атраховіч ніядоўга жыў на Уздзеншчыне — у 1925 годзе пераехаў у Мінск. У гісторыі краіны пачынаўся час, калі літаратурная творчасць такі рабілася значнай і адказнай справай.



Фота Кастуся Дробава.

На выстаўцы ў Доме Коласа, прысвечанай Кандрату Крапіве.

### У ЛІТАРАТУРЫ

Кандрат Крапіва асабліва вядомы як драматург, як аўтар баек і сатырычных твораў. «У адрозненне ад сваіх сучаснікаў, Крапіва-байкапісец ухіляўся ад фармальных эксперыментаў, пісаў проста і даступна. Яго талент вырас з народнай смехавой творчасці. У байках




Віншавальны адрас ад пісьменнікаў Беларусі з нагоды 60-годдзя Кандрата Крапівы.

пісьменнік імкнуўся да выяўлення ўніверсальных сітуацый народнага жыцця, і гэты падыход прываблівае мноства чытачоў», — адзначыў акадэмік Уладзімір Гніламёдаў.

Доктар філалагічных навук Вячаслаў Рагойша нагадаў, што Кандрат Крапіва звярнуўся да драматургіі дзякуючы перакладчыцкай дзейнасці. На адной з рэпетыцый акцёры прапанавалі перакладчыку камедыі Дзяніса Фанвізіна «Недарасль» напісаць арыгінальную п'есу. Так Кандрат Крапіва пачаў працаваць для тэатраў.

Творчаму развіццю пісьменніка спрыялі кіраўнікі Купалаўскага тэатра (тагачаснага БДТ-1). Пра супрацоўніцтва Кандрата Крапівы з тэатрам у 1930-я гады распавёў доктар мастацтвазнаўства, прафесар Рычард Смольскі. Асобнай увагі вартая амаль дэтэктыўная гісторыя пастаноўкі п'есы «Хто смяецца апошнім» (1939). Твор вельмі зацікавіў рэжысёра Леаніда Рахленку. Пасля адмовы некалькіх адказных асоб Кандрат Крапіва і Леанід Рахленка звярнуліся з просьбай аб пастаноўцы п'есы да першага сакратара ЦК КБ Беларусі Панцеляймона Панамарэнкі — і атрымалі дазвол. «Прэм'ера спектакля была бомбай у тагачасным культурным жыцці», — адзначае Рычард Смольскі. Па словах мастацтвазнаўцы, адным з сакрэтаў творчага поспеху Крапівы-драматурга было добрае знаёмства з акцёрамі тэатра: Крапіва пісаў п'есы з разлікам на канкрэтных




Асабісты аўтограф Кандрата Крапівы 1925 г.

выканаўцаў. Гэты прынцып, на думку мастацтвазнаўцы, няблага браць на ўзбраенне і сённяшнім драматургам.

Са шматтомнай творчай спадчыны Кандрата Крапівы найбольш цікавай для сучаснага чытача мае стаць мастацкая проза — іранічныя апавяданні 1920-х гадоў і, вядома, раман «Мядзведзічы». Гэтаму твору на канферэнцыі была прысвечана максімальная колькасць дакладаў. Пісьменнік быў заўсёды пільным да сацыяльных праблем і адмоўных чалавечых якасцей. Стылёва яго празаічныя творы напісаны цалкам у рэчышчы мастацкіх тэндэнцый тагачаснай маладой літаратуры — невыпадкова Кандрат Крапіва быў сябрам літаратурна-мастацкага згуртавання «Узвышша»! Галоўным спецыялістам па творчасці Кандрата Крапівы застаецца доктар філалагічных навук Сцяпан Лаўшук. А многія цікавыя аспекты жыццёвага і творчага шляху Кандрата Крапівы, па словах Уладзіміра Гніламёдава, яшчэ чакаюць свайго даследчыка.

### ПЕРСПЕКТЫВЫ

Падчас адкрыцця канферэнцыі акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі, член-карэспандэнт НАН Беларусі Аляксандр Каваленя ў прывітальным слове падкрэсліў адкрытасць дзяржустаноў да абмеркавання новых ідэй і ініцыятыў. Некалькі плённых прапаноў прагучала ўжо на пленарным пасяджэнні. Першую з іх агучыла ўнучка Кандрата Крапівы.

Як вядома, колькасць значных беларускіх пісьменнікаў большая за колькасць літаратурных і мемарыяльных музеяў. Кандрат Крапіва — з шэрагу «безмузейных» творцаў, нягледзячы на тое, што ў музейных фондах і ў сям'і пісьменніка ёсць нямала цікавых рэчаў. Зоя Атраховіч распавяла пра нямецкую друкавальную машынку «Фартуна», якой Кандрат Кандратавіч карыстаўся на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў. Машынка захоўваецца ў сям'і як найвялікшая каштоўнасць, хаця нашчадкі пісьменніка спрабавалі друкаваць на ёй у дзіцячыя гады. Асабістыя рэчы Кандрата Крапівы, аўтографы, лісты, адрасаваныя творцу, прадстаўлены на часовай экспазіцыі ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа.

Каб знаёмства з жыццёвым і творчым шляхам Кандрата Крапівы было цікавым і шматпланавым не толькі ў юбілейныя дні, Алена Атраховіч прапанавала стварыць віртуальны музей пісьменніка. Ажыццявіць гэту задуму было б прасцей, чым адчыніць сапраўдны музей, тым больш што сайт-музей прадугледжвае наяўнасць шматлікіх дадатковых магчымасцей. Дзякуючы віртуальным турам можна агледзець мясціны, звязаныя з жыццём пісьменніка, а зручныя класіфікацыі экспанатаў дазволяць выбраць аптымальны індывідуальны маршрут адпаведна зацікаўленням наведвальніка. Віртуальных музеяў вартыя і многія іншыя творцы — дык калі, як не ў Год культуры, стварыць каманду па іх распрацоўцы?..

Мастацтвазнаўца Рычард Смольскі звярнуў увагу на вялікую амплітуду ў ацэнцы творчасці савецкіх пісьменнікаў нават у асяродку беларускай інтэлігенцыі. Спектаклі па п'есах савецкіх драматургаў нячаста можна ўбачыць на беларускай сцэне. Аднак творчая спадчына многіх аўтараў вартая ўвагі ды сцэнічнага пераасэнсавання. Нагодай для цікавых пастановак мог бы стаць адмысловы тэатральны фестываль, прымеркаваны да літаратурных юбілеяў, якія здараюцца кожны год.

Выдатна, калі канферэнцыя, прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння Кандрата Крапівы, дасць пачатак рэалізацыі новых культурных праектаў: роздумы над творчасцю класікаў могуць натхніць не толькі на навуковыя пошукі, але і на карысныя ідэі!

**Юлія ШПАКОВА**

# Шыпы і хараство

## Гісторыі адважных сэрцаў

**Сярод самых купляных кніг у Мінску апошнім часам значыцца зборнік казак Надзеі Ясмінска «Сем ружаў». Такую папулярнасць вытлумачыць вельмі лёгка: кніга спалучае выбітныя ілюстрацыі, якія можна было б выдаць і асобным мастацкім альбомам, не баючыся, што выданне стане збыткоўным, і класічныя казкі, якія наследуюць еўрапейскай традыцыі.**

Сучасная літаратурная казка ці народныя казкі ў апрацоўцы заўжды імкнуцца да ўраўнаважання сіл дабра і зла, што выяўляецца найперш у сюжэце, у развязцы на карысць станоўчага героя. У «Сямі ружах» гэты закон — імкнення да святла — заўважны і на ўзроўні маўлення, у стаўленні да герояў, іх апісаннях, у тым, якія мяккія і, вядома ж, справядлівыя присуды выносіць аўтарка адмоўным героям. Часам гэтыя присуды бываюць нават сімвалічныя. Прыкладам, адзін злосны карлік, які прагнуў кароны і быў вельмі жорсткім, капрызлівым, скамянелым душою, ператвараецца па жаданні казачніцы ў камень. Вы можаце заўважыць, што гэты присуд не самы мяккі. Да ўсяго, перамогу над злыднем гераіня казкі атрымала падманным шляхам. Сапраўды, менавіта гэты момант пакідае па сабе неадназначнае ўражанне, але не таму, што казачніца выявіла жорсткую натуру і гэта можа напалохаць дзіця (у многіх казках іншых аўтараў злодзеі ўвогуле гінуць): справа менавіта ў той дабрыні, што з'яўляецца падмуркам твораў Надзеі Ясмінска. На яе фоне рэзка выглядае ўсякі больш-менш рашучы крок у пакаранні метафарычнага зла.

Дабрыня і душэўнасць — тэрміны, далёкія ад літаратуразнаўства і крытыкі. У дачыненні да разгляду мастацкага твора яны могуць згадвацца хіба што ў сувязі з ідэяй. Аднак, кажучы пра тэксты Надзеі Ясмінска, зусім не назваць гэтыя катэгорыі было б страшнай памылкай. І размова не толькі пра «Сем ружаў» — пісьменніца мае некалькі рускамоўных кніг («Кнігармонія», «Зефірныя прыкметы», «Зялёныя песні Эрміны»). У сучаснай літаратуры жаданне бачыць станоўчае, добрае — безумоўная рэдкасць. Такія творы «выселеныя» ў сферу дзіцячай літаратуры. Але наракаць на гэта немагчыма: літаратура — заўжды летапіс паталогій, хваравітых станаў грамадскасці ці асобнага чалавека, словам, «гісторыя хваробы» (Андрэй Федарэнка).

А «Сем ружаў» — гісторыі тыумфу справядлівасці. Аднак перамога не даецца героям за так: па ўсіх законах «марфалогіі казкі», герой мусіць змагацца і губляць, перш чым перамагаць і атрымліваць. Гэтаксама, згодна з пабудовай класічнай казкі, галоўны герой надзелены абавязковымі станоўчымі якасцямі. І вось тут хаваецца першая адметнасць «Сямі ружаў»: у Надзеі Ясмінска галоўныя заўжды гераіні. Сем дзяўчат, сем чароўных ружаў — абавязковых у казцы артэфактаў, што надзяляюць героя сілай ці робіцца ключавымі ў сюжэтных паваротах. Дый сама лічба 7 сімвалічная і аўтаматычна прывязвае твор да старажытнай літаратурнай традыцыі.

Што да сімвалаў, у «Сямі ружах» іх багата. Пачаць хоць бы з самое назвы: пра 7 мы ўжо сказалі; ружа — яшчэ з сярэднявечнай рамантычнай традыцыі сімвал прыгажосці, чысціні, духоўнага хараства (водар ружы, аксамітавыя пялёсткі), і ў той жа час шыпы яе нагадваюць пра дваістасць усяго, пра перашкоды, якія сустрэнуцца на шляху да абяцанага шчасця. Тут жа сімвалізм колеру. Так, гераіні кнігі атрымліваюць кожная сваю ружу, і колеры кветак адпавядаюць пэўным рысам дзяўчат. Зрэшты, казачніца не падбірае колеры занадта відавочна. Яна пакідае прастору для гульні, і вы можаце альбо прыняць яе, альбо лічыць, што колеры — выпадковасць. Мне, да прыкладу, даспадобы гульня. Пунсовая ружа прызначаная самай цікаўнай дзяўчыне (што можна расчытаць гэтаксама як самай «жывой», споўненай энергіі і сілаў), жоўтая — самай кемлівай (колер сонца, святла, мудрасці), белая — адданай (сімвал чысціні і цноты), кармінавая — добрай (таксама, як і пунсовы, колер жыцця, колер сэрца), блакітная — сціплай (знак высакароднасці), залатая — смелай (знак узнагароды і высокіх якасцей), чорная — адважнай дзяўчыне, якая не збаялася смерці, цемры, нябыту.

Усе гісторыі непарыўна звязаныя з Густым лесам. Лес увогуле ў беларускіх казках — неад'емная дэкарацыя, а часам і дзейная асоба. Што ўжо казаць пра свядомасць беларусаў, для якіх лес — надзейны тыл, так бы мовіць, «апошняя інстанцыя». Крыху іншая роля лесу ў казках заходнееўрапейскіх: гэта месца цудаў, чараўніцтва, часта — небяспечнае, змрочнае, яго галоўнымі насельнікамі выступаюць не жывёлы, але казачныя істоты — эльфы, гномы, феі, злыя веліканы. Беларусы пасялялі ў лесе хіба што чараўніц, сясцёр рускай Бабы Ягі.

Што робіць Надзея Ясмінска? На манер заходнееўрапейскай казкі яна насяляе лес эльфамі. Сустракаецца тут і веліканша — але яна «абеларушваецца», ператвараецца ў волатку (у міфалогіі Беларусі існуе цэлы цыкл паданняў пра жанчын-асілкаў). Згадваецца аднарог (але не сустракаецца). Тут таксама жывуць чараўнікі — але ўсе добрыя; яны навучаюць гераінь цярплівасці, «рамяству» (чараўніцтва гэта ці стральба з лука), яны дапамагаюць усяму жывому і ахоўваюць лес, лекуюць яго. Адна з гераінь ператвараецца ў багоўку — быць можа, выпадковы выбар аўтара, а можа, літаральна выказаная сувязь са светлым бокам свету, знак духоўнай чысціні гераіні.

Як і належыць гераіням казкі, дзяўчаты-ружы знаходзяць сабе годную пáру. Пры гэтым гісторыі знаёмстваў, развіцця адносін не паўтараюцца, кожная з іх унікальная і нясе свой маленькі ненавязлівы ўрок. Нават не ўрок, а назіранне. Так, Чорная Ружа пазбягала нарачонага караля Паўночных зямель, бо чула, што ён стары і нямоглы; кароль Паўночных зямель (насамрэч гожы юнак) пазбягаў Чорнай Ружы, бо чуў, што яна хворая і дужа непрыгожая. Вядома ж, іх шляхі сышліся. Такая вось ілюстрацыя да прымаўкі «лёс на кані не аб'едзеш».

Дарэчы, пра прыгажосць. Усе дзяўчаты-ружы — красуні. Казачніца не сцвярджае, што толькі народжаная прыгожай мае права на шчасце; але між радкоў мы бачым: без знешняга хараства «кепска будзе». Блакітная Ружа не займела шчасця, пакуль не прыбавіла ў росце і не папрыгажэла пасля купання ў чароўным возеры. Чорнай Ружы ўнушылі, што яна непрыгожая, але насамрэч яна была прыўкраснай. Пунсовая Ружа, зачараваная ў страшнае аблічча, завявала сэрца




хлопца не таму, што была таленавітая ці добрая: яна паказала яму сапраўдны твар у чароўнай (зноў жа) сажалцы. Можна расцаніць гэта як метафару, маўляў, чыстая вада — гэта і ёсць душа дзяўчыны, і юнак закахаўся ў душу, а не ў маладзы прывабны тварык. Але пры ўсім сваім аптымізме ў такі падтэкст паверыць цяжка. А чаму б не павярнуць казку ў бок «Прыгажуні і пачвары» (падобную гісторыю апісала Дыяна Уін Джонс у «Хадзячым замку»)? Гэта, лічу, было б не толькі больш педагагічна (як бы «страшна» гэтае слова ні гучала), але і міласэрна.

«Сем ружаў» называюць зборам казак. Насамрэч гэта цэласны твор, гісторыі ў якім можна чытаць паасобку; і ўсё ж разам яны складаюць арыгінальны тэкст са структурай простай, але гарманічнай.

Абавязковае пытанне датычна дзіцячай кнігі: ці будзе яе цікава чытаць у дзесяць, у дваццаць, у сорак і ў семдзесят гадоў?.. Усякі класічны твор дзіцячай літаратуры не мае абмежаванай узроставай катэгорыі. «Сем ружаў» знойдуць сваіх прыхільнікаў і сярод дарослых (вялікае эстэтычнае задавальненне прыносяць ілюстрацыі Кацярыны Дубовік; у казках мы бачым несправядлівасці і выпрабаванні дарослага жыцця; асобныя дасціпныя выказванні таксама зразумее толькі дарослы: чаго варты шлюб Чорнай Ружы і караля Паўночных земляў, у выніку якога ўтварылася Паўночна-Заходняе каралеўства!) Аднак мова, вельмі простая, у асобных выпадках схільная да русізмаў, наўрад ці задаволіць чытача, які ацаніў казачныя апавяданні Пятра Васючэнкі «Жылі-былі паны Кубліцкі ды Заблоцкі» ці казкі Уладзіміра Караткевіча. Што ўжо казаць пра такі шэдэўр рускай дзіцячай літаратуры, як «Тры таўстуны» Юрыя Алешы.

І ўсё ж свайго чытача «Сем ружаў» ужо займелі. Талент Надзеі Ясмінска не застаўся незаўважаным.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Іспанскі раяль, які грае па-беларуску

Зусім нядаўна ў беларускай літаратуры з'явілася адметная, калі не ўнікальная, кніга — зборнік іспанскай паэтэсы, якая піша па-беларуску.

Анхела Эспіноса Руіз нарадзілася ў Малазе (Іспанія) і свой першы верш на роднай мове напісала ўжо ў шэсць гадоў. З таго часу з'явіліся вершы на англійскай, французскай і ўкраінскай мовах, а ў 2014-м — і па-беларуску. Нашу мову Анхела вывучыла з дапамогай інтэрнэту. Дзяўчына так зацікавілася беларускай культурай, што пачала весці тэматычны блог пад назвай «Іншаземка, якая піша па-беларуску». Пасля сканчэння летась Гранадскага ўніверсітэта па спецыяльнасці «Славянская філалогія», дзе паэтэса ладзіла для іспанскіх студэнтаў курсы беларускай мовы, яна стала магістрантам кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. Акрамя кнігі «Раяль ля мора», якая выйшла на паперы, мае і электронны зборнік вершаў «Памяць пра будучыню».

Натуральна, што пісанне вершаў на пэўнай мове, тым больш нероднай, уплывае на вынік. Магчыма, па-іспанску гэтыя думкі не гучалі б так выразна і пераканаўча, як па-беларуску. Але першая кніга Анхелы Эспіносы Руіз выйшла менавіта па-беларуску, і тутэйшым паэтам ёсць чаму павучыцца і з чаго падзівіцца. Кагосьці, вядома, гэта можа натхніць на выказванне сваіх думак на іншай мове — але перадусім важна атрымаць уяўленне пра тое, што і як можа выказаць па-беларуску чалавек іншай культуры, выхаваны ў адрозным ад нашага асяроддзі. Беларускім аўтарам часам варта




ўяўляць сябе на месцы Анхелы ці каго іншага з замежнікаў, што дазволіць зірнуць на свет з іншага пункту гледжання і прадставіць рэчаіснасць у небанальным адлюстраванні. Сама ж аўтарка кажа, што, хоць і была ўзгадавана ў іспанскай традыцыі вершаскладання, і зазнала пэўны ўплыў французскага сімвалізму, але беларуская мова дапамагла ёй выйсці за межы гэтых уплываў і традыцый, пачаць пісаць інакш. Наша мова падаецца надзвычай прыдатнай для вершавання! Анхела таксама займаецца перакладам: па-іспанску загучалі творы Янкі Купалы і Рыгора Барадуліна.

Назва зборніка Анхелы — «Раяль ля мора» — гучыць як ніколі пераканаўча: аўтарка скончыла музычную школу па класе фартэпіяна, з малых гадоў іграе на падобных інструментах і насамрэч жыла і гадавалася ля мора, чым мала хто з беларускіх аўтараў можа пахваліцца. Таму і вобраз раяля, апісанага ў аднайменным вершы, незвычайны для нашай літаратуры. З іншага боку, часам наіўныя радкі пачынаюць выглядаць цікава і ствараюць удалы вобраз менавіта таму, што аўтарка, для якой беларуская мова няродная, не баіцца выказваць думкі гранічна проста, без мудрагельстваў. Дазволім сабе ўявіць, што Анхела Эспіноса Руіз думае, прыкладам, па-іспанску і толькі перакладае вобразы на беларускую беларускую мову. Але гэта ёй удаецца надзвычай удала, што не можа не выклікаць павагі як у чытача, так і ў калег па пяры. Сама аўтарка прызнаецца: вершы для яе непарыўна звязаныя з музыкай. Таму нядзіўнай выглядае і назва зборніка, і «музычная» тэматыка асобных радкоў, і пэўныя адсылкі да творчасці іншай маладой зоркі — Аліны Арловай, якая, дарэчы, мае беларускія карані.

Вершы Анхелы Эспіносы Руіз, магчыма, яшчэ не надта ўпэўненыя паводле формы, але іх змест часам смелы ды пераканаўчы. Пэўную пікантнасць і незвыкласць надае зборніку прысутнасць макаранічных твораў і вершаў у прозе на гістарычную тэматыку з доляй гендарнага падзелу. І ўсё гэта пад адной вокладкай. Калі беларускага чытача раптам і няцяжка здзівіць такой кніжкай, усё ж здараецца падобнае надта рэдка.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# Тэатр — арганізм жывы, рухомы…

Кожная юбілейная дата для чалавека альбо для ўстановы — пэўная нагода прыпыніцца, азірнуцца і падсумаваць зробленае. 14 сакавіка першы маленькі юбілей — 10 год з дня ўтварэння — адзначае Палескі драматычны тэатр. Разам з дырэктарам і мастацкім кіраўніком Палескага драматычнага тэатра Аляксандрам Лукашэнкам мы адзначаем зробленае.

— Аляксандр Мікалаевіч, Палескі драматычны тэатр святкуе сваё першае дзесяцігоддзе, але ж першыя згадкі пра тэатральную дзейнасць пінчукоў вядомыя яшчэ напрыканцы XIX стагоддзя.

— Сапраўды, яшчэ ў далёкім 1877 годзе маскоўская «Театральная газета» ў афішы спектакляў, якія ішлі на прафесійных і аматарскіх сцэнах Расіі, назвала і Пінск. А ўжо праз 10 гадоў у горадзе адкрылася Таварыства рускіх драматычных артыстаў. У ліку паказаных імі п'ес — «Разбойнікі» Шылера, «Запіскі вар'ята» Гогаля, «Без віны вінаватыя» і «Шалёныя грошы» Астроўскага.



*Будынак Палескага драматычнага тэатра.*

Сама ж гісторыя тэатра пачынаецца ў 1939 годзе, калі была вызваленая Заходняя Беларусь. Тэатр прапрацаваў ажно да пачатку Вялікай Айчыннай вайны, аднавіў сваю дзейнасць у 1949 годзе. У 1954 годзе быў рэарганізаваны і пераехаў у Магілёў. Будынак перадалі гарадскому Дому культуры, у сценах якога і былі створаны самастойны тэатральны калектыў. Кіраўніком трупы прызначылі Ісака Сакольскага. Яго намаганнямі ў гарадскім Доме культуры былі арганізаваны аматарскі драматычны калектыў.

У 1980 годзе народны тэатр узначаліў Іван Базан. У 1992 годзе калектыў быў рэарганізаваны, з'явілася тэатр-студыя «Дыяген», акцёры якой прафесіяналізмам і плённай дзейнасцю даказалі, што тэатральнае мастацтва ў горадзе запатрабавана і прыйшла пара адрадзіць у Пінску прафесійны тэатр. 14 сакавіка 2006 года калектыву тэатра была вернута гістарычная назва. Сёння Палескі драматычны тэатр размяшчаецца ў цэнтральнай частцы горада, яго будынак адрэстаўраваны і з'яўляецца гістарычным помнікам архітэктуры XIX стагоддзя. Першапачатковае знешняе аблічча будынка захавана, а ўнутры ўсё зроблена так, каб акцёры маглі дазволіць сабе з камфортам працаваць у сучасных умовах.

**— Што найбольш памятнае і знакавае?**

— Па-першае, з самага пачатку існавання разам з фарміраваннем творчай трупы інтэнсіўную працу па падборы рэпертуару вядзе Іван Базан. Кожны месяц тэатральнага сезона пад яго кіраўніцтвам быў адзначаны новым прэм'ерным паказам.

Па-другое, адной са значных падзей для маладога прафесійнага тэатра стала і тое, што ў жніўні таго ж 2006 года трупу папоўнілі 8 выпускнікоў Магілёўскага дзяржаўнага вучылішча культуры. Разам з артыстамі тэатра-студыі «Дыяген» яны і сталі асновай творчага калектыву Палескага драматычнага тэатра. Адным з артыстаў быў Павел Марыніч, які сёння працуе рэжысёрам-пастаноўшчыкам нашага тэатра. На яго рахунку больш як 20 спектакляў для дарослых і дзяцей.

Менавіта першыя два гады дзейнасці тэатра асабліва запомніліся маленькім пінчукам. У гэты час выпускаецца шэраг дзіцячых і дарослых прэм'ер. Сярод іх спектаклі па п'есе Б. Шоу «Пігмаліён» — «Летні лондански дождж» (рэжысёр Алена Гаўрыловіч); «Тэатр аднаго гледача» паводле п'есы В. Жарабцова і пастаноўка «Адгукніся, браце!» па п'есе Георгія Марчука (рэжысёр Іван Базан); «Настаўнік танцаў» па п'есе Лопэ дэ Вега (рэжысёр Павел Марыніч) і іншыя.



*Дырэктар і мастацкі кіраўнік Палескага драматычнага тэатра Аляксандр Лукашэнка.*

**— Якія самыя знакавыя ўзнагароды ў скарбонцы Палескага драматычнага тэатра?**

— Кожныя два гады наша ўстанова ладзіць свой унутрытэатральны конкурс. У намінацыях «Лепшы спектакль», «Лепшая рэжысура» і «Лепшая мужчынская і жаночая роля» рашэннем мастацкага савета, а часам і тэатральнай грамадскасці і гледачоў, падводзяцца вынікі ўласнага конкурсу, які пазначаны ў нас як конкурс «Залатая талерка». Урачыстасці раз на два гады праводзяцца напярэдадні Міжнароднага дня тэатра.

Між тым сёння з поўным правам можна сказаць, што Палескі драматычны тэатр не толькі выйшаў за межы Пінска і Брэстчыны, але і Беларусі, пра што сведчаць і нашы паспяховыя гастролі ў Расіі. Дыплом тэатральнай прэміі «Смаленскі каўчэг», мінулагодняя перамога ў Нацыянальным тэатральным форуме — дасягненні, якія мацуюць творчы дух акцёраў нашага тэатра.

**— Над чым працуеце сёння?**

— Літаральна ў сакавіку-красавіку казкай для дзяцей «Канёк-Гарбунок» П. Яршова і спектаклем для дарослых «Можна стаць шчаслівым заўтра» па п'есе Н. Птушкінай мы працягнем вандроўны тур па Беларусі. Гэтыя пастаноўкі будуць праходзіць на тэатральных пляцоўках Мінска і Салігорска. Акрамя таго, у красавіку калектыў у чарговы раз возьме ўдзел у V Міжнародным тэатральным фестывалі «Смаленскі каўчэг». Прадставім пастаноўку «Сабакі» паводле п'есы К. Сергіенкі ў пастаноўцы Паўла Марыніча. Яшчэ ў плане «рэпетыцыі» па падрыхтоўцы ўласнага фестывалю тэатраў малых формаў, які мы плануем ўвасобіць. Ужо ўвосень запланавана правесці акцыю «Палескі збірае сяброў»: на суд гледача будуць прадстаўлены спектаклі запрошаных да нас іншых тэатральных калектываў. Ёсць безліч іншых задумак, бо тэатр — арганізм жывы, рухомы.

**Марыя КОБЕЦ**
**Фота прадастаўлена**
**Палескім драматычным тэатрам**

# …кінаТэатр

## Два ў адным: спектакль рэжысёра Дзмітрыя Астрахана

Казачная гісторыя з «хэпі-эндам» — тое, да чаго прывучыў Галівуд, і тое, што прыйшлося даспадобы людзям, якія ў мастацтве шукаюць забавы. Такіх шмат. Яны любяць кіно тых самых «забаўляльных» жанраў, якія даюць выкід эмоцый, магчымасць плакаць і смяяцца. Меладрама — бяспройгрышны варыянт яшчэ і таму, што, як правіла, усё добра заканчваецца і хочацца верыць у лепшае ва ўласным жыцці. Пэўная частка гледачоў шукаюць таго ж у тэатры — і забяспечваюць аншлагі спектаклям, якія ставяцца, як кажуць, «дзеля касы». Прэм'ерны спектакль Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Горкага «Лэдзі на дзень» менавіта такі. Але пры яго праглядзе ў тэатры вас не пакіне адчуванне таго, што вы на галівудскім фільме.

Пастаноўшчыкам у тэатры выступіў знакаміты расійскі кінарэжысёр Дзмітрый Астрахан, аўтар тэлевізійных меладрам «Ты ў мяне адна», «Усё будзе добра», «Зала чакання». Ён працуе ў партнёрстве са сцэнарыстам Алегам Данілавым, які стаў і аўтарам п'есы, што вельмі нагадвае сцэнарый кінафільма.

Дарэчы, ён існуе даўно. Гэта старая галівудская меладрама «Лэдзі на адзін дзень», знятая ажно на пачатку XX стагоддзя. Ёсць нават згадкі пра тое, што аўтар сцэнарыя Роберт Рыскін узяў за аснову газетную заметку. Фактычна гэта гісторыя Папялушкі, толькі сталай, якая цудоўным чынам ператвараецца ў сапраўдную лэдзі дзеля дачкі.

Праўда, у праграмцы першакрыніца нідзе не пазначана. Пры тым, што сутнасна сама гісторыя не змянілася. Заслоны расступаюцца, і вы разумееце, што перад вамі Амерыка, Бруклін. Вулічная гандлярка яблыкамі Эні (актрыса Ганна Маланкіна), якая існуе ў жабрацкім стане, атрымлівае ліст ад дачкі, якую не бачыла ўжо 12 гадоў: дзяўчына знайшла суджанага, вось толькі яго бацька, іспанскі арыстакрат, перш чым блаславіць сына, хоча пераканацца, што нявеста таксама належыць да радавітай эліты. Дзяўчына не хлусіла: так і было, калі яна паехала ў Еўропу на кароткі час. Але вандроўка зацягнулася. За гады маці збяднела, апусцілася, а дачцэ пра гэта не стала паведамляць. Цяпер, калі маладыя з бацькам-графам ужо на шляху ў Амерыку, ёй застаецца ганьба і рашэнне звесці рахункі з жыццём.

І тут з'яўляецца Фея… Аферыст Дэйв (Руслан Чарнецкі) толькі што ўмудрыўся прадаць Бруклінскі мост. Але калі маці, паважаная «мадам» з публічнага дома (Аксана Лясная), распавядае яму пра няшчасную Эні, ён тут жа прыдумляе, як дапамагчы той сустрэцца з дачкой і не нашкодзіць.

Гэта была завязка. Развязка адразу ж чытаецца ў адпаведнасці з жанрам. Нават калі хто не глядзеў фільм, то зразумела, што з такім Дэйвам драма будзе ператворана ў дзею, дзе жарт (розыгрыш) — у аснове. Дзяўчаты з бардэля дапамагаюць стварыць метамарфозу з Эні, якая паўстае вытанчанай і прыгожай лэдзі, — ніхто і не здагадаецца пра яе рэальнае жыццё. Тыя ж вулічныя дзеўкі і жабракі разыгрываюць потым перад графам амерыканскіх арыстакратак. Нават мэр Нью-Ёрка пагаджаецца дапамагчы Эні, каб сцвердзіць ідэалы дэмакратыі перад ганарлівым еўрапейцам, даказаўшы,



*Сцэна са спектакля «Лэдзі на дзень».*

што кожны чалавек мае права на жыццё, кім бы ён ні нарадзіўся.

Нельга сказаць, што рэжысёр Дзмітрый Астрахан сваімі прыёмамі дапамагае закруціць сцэнічную інтрыгу. Рэжысёр не прапаноўвае нейкае ўласнае «прачытанне» галівудскай гісторыі, імкнучыся яе адаптаваць да сучасных рэалій ці наблізіць да нашага свету, знайшоўчы нейкі чалавечы «мэсэдж». Ён не спрабуе зрабіць яе больш тэатральнай, драматычнай, хоць спецыфіку працы ў гэтым відзе мастацтва разумее: пачынаў калісьці як тэатральны рэжысёр.

Але мы глядзім не столькі тэатральную камедыю, колькі набор стэрэатыпаў на тэатральнай сцэне. Амерыку XX стагоддзя мы бачым вачамі Дзмітрыя Астрахана (ён яшчэ выступае як сцэнограф, праўда, пры дапамозе Святланы Кулікоўскай). Калі бардэль — дык дзеўкі ў панчохах і пеньюарах (так уяўляюцца аўтару прастытуткі на вуліцах Брукліна XX стагоддзя). Шмат крыку-віску, плоскіх жартаў, банальных мізансцэн і ні намёку на аўтарскую арыгінальнасць. «Хэпі энд» настолькі «хэпі», што Эні ніколькі не шкада нават у фінале, калі яна зноў гандлюе яблыкамі, але ўсё будзе добра: Дэйв ужо стаў мэрам горада…

У любой пастаноўцы, відаць, усё ж ёсць сэнс. І калі тэатр прапаноўвае спектакль, які быў ужо пастаўлены ў Маскве (дарэчы, не здабыў станоўчых водгукаў крытыкаў), то нешта ў ім усё ж ёсць, што патрэбна людзям і робіць пастаноўку касавай, як і патрэбна тэатрам.

Нельга сказаць, што гледачы не маюць рацыі: часам стомлены розум патрабуе «разгрузкі», але роўна настолькі, каб «перазагрузіцца» і функцыянаваць далей, адпаведна характарыстыкам існавання віду «чалавек разумны». А яму ўсё ж патрэбная думка. У тым ліку ў тэатры. Таму варта было б чакаць, што ў афішы адлюструецца спроба прыйсці да балансу, ураўнаважваючы спектаклі-забаўкі і спектаклі-роздумы. Вось толькі забавак у беларускіх тэатрах становіцца больш. Таму авацыі, зладжаныя пасля прэм'еры, прымушаюць задумацца больш, чым сама пастаноўка: чалавека можна прывучыць «ужываць» падробку замест мастацтва так, што ён наогул перастане разумець, што яно ёсць. І тады можна наогул паставіць пытанне: а навошта яно, гэтае мастацтва, у тым ліку тэатральнае? Такім чынам, у пошуку гледача любымі сродкамі сёння тэатр можа згубіць сябе заўтра.

**Ларыса ЦІМОШЫК**

# ЭКСПАЗІЦЫІ САКАВІКА: ЧЫМ СЯБЕ ЗДЗІВІЦЬ?

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ МАСТАЦКІ МУЗЕЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ



Юрый Макараў «Ціхая флейта».

1 Калі збіраешся на выстаўку з назвай «Музыка вясны», чакаеш чагосьці звыклага і лірычнага — нібы букеты цюльпанаў у пераходзе напярэдадні свят. Але не ў выпадку з жывапісцам Юрыем Макаравым. Яго карціны — сімвалізм, насычаны містычнымі колерамі. Здаецца, што энергія, якая прачнулася пасля зімы, акумулявалася ў гэтых палотнах, бо майстар вельмі разнастайны. Хочаце адчуць усю гаму эмоцый, ад ціхамірнасці да спалоху?

У Юрыя Макарава, з аднаго боку, шмат утульных і цёплых партрэтаў родных і сяброў, з другога — сакавітых кветкавых нацюрмортаў, з трэцяга — таямнічых, нават змрочных футурыстычных выяў на мяжы абстракцыянізму. Улюбёны матыў жывапісца — флейта. Кажуць, што ў розных народаў інструмент сімвалізаваў як гармонію, гукі самой прыроды, так і спакусу, бо адна з сірэн, міфічных жанчын-птушак, што завабліваілі маракоў, іграла на флейце. Юрый Макараў прапануе кожнаму гледачу прыслухацца да музыкі сваёй душы і зразумець, чаго не хапае менавіта ёй.

Выстаўка — добры прыклад таго, як праз усяго 20 удала падабраных твораў можна прасачыць творчую эвалюцыю мастака, адчуць, што Юрый Макараў пражыў вельмі яркае і драматычнае жыццё, увесь час эксперыментаваў з рознымі стылямі, выкарыстоўваў новыя прыёмы і манеру пісьма. Нядзіўна, бо росквіт яго творчасці прыйшоўся на 1990-я гады, час, калі ламаліся стэрэатыпы і нараджаліся мастакі сучаснага пакалення са шчырым і неабмежаваным пачуццём свабоды.

## АРТ-ГАЛЕРЭЯ «A&V»

2 Персанальная выстаўка заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь, ганаровага акадэміка Расійскай акадэміі мастацтваў, вядомага брэсцкага мастака-графіка Льва Алімава дэманструецца ў Мінску. Назва «Ілюзіі» адразу дае зразумець: паўсядзённага ў экспазіцыі няма, толькі грацыёзнае і вытанчанае. Леў Барысавіч працуе ў тэхніцы афорта — разнавіднасці гравюры на метале, станковай графіцы глыбокага друку, якая дазваляе атрымліваць адбіткі з друкаваных форм. У аснове афортнага адбітка — металічная пласціна альбо меднае, сталёвае, цынкавае «палатно».



Леў Алімаў «Вандроўнік», 2015 г.

Работы мастака нязвыклыя: у іх прысутнічае шмат дробных, незаўважных дэталяў, якія патрэбна знайсці і ў выніку зразумець, пра што гравюра. У аснову мноства сюжэтаў пакладзены гістарычныя падзеі, прадстаўленыя ўтоена, акцэнтаваныя на сапраўдную зацікаўленасць гледача гісторыяй, мастацтвам. Леў Алімаў — эксперыментатар, адрознівае духоўнае ад матэрыяльнага, чым прыцягвае.

На выстаўцы экспануецца самая вядомая работа майстра — гравюра-аўтапартрэт «Народжаны ў масцы», за якую Леў Алімаў быў удастоены звання «Чалавек года ў мастацтве» (1992 г.), прысуджанага яму Міжнародным біяграфічным цэнтрам (Кембрыдж).

## КНІЖНА-ВЫСТАВАЧНАЯ ПРАСТОРА «КНІЖНАЯ ШАФА»



3 Спакойныя, рамантычныя, эмацыянальныя, крыху эпатажныя здымкі прадстаўляе публіцы фотамастак Віктар Сядых на выстаўцы «Успамін». Што такое ўспамін? Лёгкае вяртанне ў мінулае альбо хапанне за абрыўкі падзей, магчыма, жаданне застацца там даўжэй, не даць памяці сцерціся? Віктар Сядых паказвае, што ўспамін — душэўны момант, замалёўка наваколля людзей праз аб'ектыў.

У аснове экспазіцыі — партрэты блізкіх аўтару людзей. Здымкі маці і бацькі задуменныя, нават сумныя. Выдаюць вочы. На астатніх партрэтах — жанчыны, прыгожыя, але сур'ёзныя. Ні адна не паўтараецца. Нават ракурсы для кожнай падабраны асобна. Цікава, што на фотаздымках аўтар амаль не выкарыстоўвае звыклых воку «дэкарацый», здымак будуецца па сістэме «чалавек і фон». Але ж асоб, што трапілі ў аб'ектыў Віктара Сядых, не назавеш простымі. Яны падобны да герояў арт-хаўсных кінастужак: не разлічаны на шырокую аўдыторыю, бо такія ж непрадказальныя.

Прадстаўленыя здымкі зроблены ў розныя перыяды. Кожны кадр па-свойму захапляе, прапануе гледачу ўступіць у дыялог з аўтарам альбо правесці паралель з сабой і ўспомніць забытае.

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ ЦЭНТР СУЧАСНЫХ МАСТАЦТВАЎ

*(Някрасава, 3)*

4 Фатограф *Mattei Abati* з Італіі распавядае пра людзей і сродкі іх перамяшчэння, якія таксама, здаецца, маюць характар. Гэта можа быць практычны самакат, пацешны цыркавы аднаколавы ровар, звычайны драўляны воз, рамантычная гандола ці адчайны матацыкл з шыкоўнай дамай побач з байкерам. На яго здымках ажывае працягласць часу, апяваецца сэнс падарожжаў і руху ў цэлым, а рэчы набываюць другое жыццё. Ці не ў гэтым адзін з сэнсаў вулічнай фатаграфіі? Мы бачым пейзажы Рыма, Грэцыі, Венецыі... Цікава, што амаль на кожным фота прысутнічае чырвоны колер. Увасабленне італьянскага тэмпераменту ці мастацкі ход, запазычаны ў Роберта Радрыгеса? Гэты акцэнт аб'ядноўвае работы і падводзіць гледача да таго, што называецца почыркам аўтара.



Выстаўка адкрылася на міжнародным фестывалі маладзёжных эксперыментальных арт-праектаў «*FUNHOUSE*» — гэтым разам беларуска-італьянскай ініцыятывы. Разам з *Mattei Abati* свае здымкі, спантанныя рэпартажы паўсядзённай Бангладэш прадстравіў загадкавы беларускі аўтар М2. Паўднёваазіяцкае жыццё так і закіпае на фатаграфіях: бурны начны гандаль, мітусня аўтобусаў на вузкіх пыльных вуліцах, густыя зялёныя заараснікі на ўзбярэжжы, дзеці ў нацыянальнай вопратцы, што хаваюцца ад дзённай спякоты... Другі прынцып фатаграфавання ў гарадскім асяроддзі раскрываецца тут: уменне мастака быць незаўважным.

Ужо ў шосты раз крэатыўны форум «*FUNHOUSE*» быў арганізаваны грамадскім аб'яднаннем «Азбука прадпрымальніцтва» ў рамках праекта «Голас культуры» пры падтрымцы ЕС. Гэта добрая магчымасць выказацца для маладых творцаў з розных краін.

## ГАЛЕРЭЯ «РАКУРС» НАЦЫЯНАЛЬНАЙ БІБЛІЯТЭКІ БЕЛАРУСІ



Дыяна Скачко «Свята. Букет кветак», 2016 г.

5 Восьмы год запар галерэя арганізоўвае выстаўку, прысвечаную вясне і жаночаму святу. Кветкі ў збанках і вазах парадуюць вока любой жанчыны. Яны не жывыя, а напісаныя мастакамі, таму ад гэтага становяцца больш прывабнымі, бо ніколі не звянуць, а назаўсёды застануцца яркімі.

Заўважныя майстэрства, наватарства аўтараў. Палотны выкананы ў розных тэхніках. Калі алейны жывапіс больш вядомы і выкарыстоўваецца мастакамі дастаткова часта, то ф'юзінг — тэхніка спякання шкла ў печы для вырабу вітражоў, прадметаў дэкору — сустракаецца радзей. Яна і выклікае ажыятаж. Публіка актыўна разглядае прадстаўленыя работы. Як можна дасягнуць такога незвычайнага эфекту?

Аўтары падышлі да арганізацыі выстаўкі арыгінальна. Можна ўзяць удзел у гульні — адгадваць назвы кветак. Святочны настрой забяспечаны.

**Вікторыя АСКЕРА, Марыя ВОЙЦІК**

# Ніна ГАЛІНОЎСКАЯ:
# «Трэба навучыць дзяцей правільна хадзіць па зямлі…»



**Ніна Галіноўская прысвяціла маленькаму чытачу амаль два дзясяткі кніг. Лічы, усё жыццё яна выступае з вершамі ў дзіцячых бібліятэках, школах, садках. Знайсці агульную мову з дзецьмі, паразумецца дапамагае адукацыя: Ніна Васільеўна скончыла педвучылішча, працавала ў дзіцячым садку і ў дзіцячым доме. Творчасць паэтэсы адзначалася не раз: Ніна Галіноўская — лаўрэат літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра, прэміі часопіса «Вясёлка» імя Васіля Віткі, а напярэдадні 80-гадовага юбілею атрымала ўрадавую ўзнагароду — Падзяку Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі.**

Размова з дзіцячай пісьменніцай — пра жыццё і творчасць.

**— Заўжды цікава даведацца ад аўтара, што піша для самых маленькіх, як прайшло дзяцінства...**

— Маё дзяцінства дзеліцца на два перыяды. Першы — вайна, час балючы і жорсткі. Голад, акопы, зямлянкі, халадэча… Вада замярзала ў вядры. Адно было ратаванне — печ. Як ішлі немцы — надта раўлі машыны!.. Да бабулі з дзядулем прыязджаў партызанскі атрад — грэцца. А ў нашай хаце хаваўся Міхаіл Каржавін, камандзір партызанскага атрада. Гэта я на ўсё жыццё запомніла: стараста здаў нас немцам. Але напярэдзілі… І мама кажа: «Дзеткі, трэба ўцякаць у лес!» Толькі мы прабеглі свой агарод, як пачуліся стрэлы! Я кажу: «Мама, пчолы!..» А мама: «Дачушка, гэта не пчолы, а кулі! Кладзіцеся ў баразёнкі!» Ляжалі-ляжалі, усталі, ужо амаль дабеглі да жыта — зноў кулі па нас! І мы зноў — у баразны, пакуль не сцямнела. Калі выйшлі, насустрач бабуля… «На даху школы паставілі два кулямёты, паліцаі доўга стралялі, з перапынкамі, а потым сказалі: "Забілі чатырох партызан!"» Значыцца, мы для іх былі партызаны: сястра, старэйшая за мяне на пяць гадоў, брат, старэйшы на два з паловай гады, я і мама…

**— Пасляваенныя гады былі шчаслівейшыя?..**

— Вайна скончылася, але хлеба ўсё роўна не хапала. Бацька так і не вярнуўся, прапаў... Перад вайной пасадзіў ліпу, арабіну, яблыню. Ліпа расла блізка-блізка каля акна, і калі галінка стукала, што ў мяне ў душы рабілася! Хацелася спяваць… Гэты астравок, гэтыя дрэвы — каб іх не было, то, магчыма, я б і не пачала пісаць. Такія пачуцці нараджаліся... А яшчэ я складала казкі і перказвала іх сяброўкам.

Любіла чытаць — навучылася да школы. У самым пачатку вайны людзі хапалі ўсё: хто матэрыю, хто хлеб, хто муку — а брат з сястрою ў бібліятэку па кніжкі: Лермантаў, Пушкін, Жуль Верн… Яны любілі чытаць, як і маці. Яна скончыла 4 класы. Хацела пайсці ў медыцыну, але дзе тут быць медыцыне?.. Чыталі пры газоўцы, «смаркачка» называлася (у бутэлечцы гарэла святло).



*Фота з сямейнага архіва паэтэсы.*

*Маладая дзіцячая аўтарка Ніна Галіноўская.*

У школе падручнікаў не было, выпісвалі раённую газету «Чырвоны барацьбіт». Пісалі на грыфельных дошках. Сталы-самаробкі на падпорах у якасці парт. Сядзелі таксама на дошках. Вёска нашая тады лічылася вялікай, школа-сямігодка, прыходзілі дзеці з суседніх вёсак...



*Фота Уладзіміра Крука.*

*Ніна Галіноўская, Янка Брыль, Галіна Каржанеўская.*

**— Якія творы паўплывалі на вас у дзяцінстве?**

— Спачатку чытала Пушкіна. Былі ў нас і кнігі Янкі Купалы, той жа «Курган». «Пяць тыдняў на паветраным шары» Жуля Верна. А ў пятым класе я ўжо чытала «Крэйцараву санату» Талстога і «Абломава» Ганчарова. Што зразумела? Проста вельмі хацела чытаць…

**— А як пачалі пісаць вершы?**

— Калі скончыла Магілёўскае дашкольнае педвучылішча, па накіраванні трапіла на Брэстчыну: за восем кіламетраў ад Баранавіч знаходзілася торфапрадпрыемства «Калпеніца», а пры ім — пасёлак для супрацоўнікаў, дзе быў дзіцячы садок (там я была першай выхавацелькай). Прыехала, бачу: усё новенькае, шмат кніжак — і Вітка, і Барто, і Міхалкоў, і Маршак, і Чукоўскі, і Благініна… Ніяк не пакідала думка, што я і сама магла б пісаць. Хутка назбіралася два сшыткі вершаў на рускай мове — іх я выкарыстоўвала на ранішніках і не думала тады, што ўжо займаюся літаратурнай творчасцю. Вершы нікуды не дасылала, пакуль не перайшла працаваць у дзіцячы дом у Лунна, на Гродзеншчыне. Будучы муж, Яўген Крупенька, пісаў мне ў той час лісты і ў адным параіў: а ты дашлі свае вершы ў рэдакцыю! Так і зрабіла. Надрукавалі.

**— Першая публікацыя падбадзёрыла?**

— Натхніла! Пасля таго, як мы з Яўгенам ажаніліся, ён забраў мяне ў Мінск, дзе працаваў у часопісе «Блакнот агітатара» разам з Вячаславам Адамчыкам. Ім далі кватэру на дваіх. Мы жылі ў спальні, а ў Адамчыкаў ужо было дзіця, Валодзя, і яны жылі ў зале…

Я пісала вершы на рускай мове. Напішу, Жэня прачытае: няма верша! Другі прачытае: ёсць верш! Ён ніколі не ўмешваўся ў сам твор, ды і я ніколі б не прыслухалася да яго.

Аднойчы паказала свае творы аднаму байкапісцу, а ён пытаецца: «А па-беларуску можаце?» — «Магу!» — адказваю. Адзін верш напісала, другі… Потым уступіла ў літаб'яднанне Мінскага раёна, дасылала творы ў раённыя і абласныя газеты і ўрэшце насмелілася ў «Вясёлку»: прынесла вершы, пакінула ў сакратаркі — ды ўцякаць!.. Тады там былі Алесь Пальчэўскі, Сяргей Грахоўскі, Васіль Вітка. Калі Вітка прачытаў, запытаўся, ці сама напісала. Вершы адразу надрукавалі — на цэлую старонку.

Нейкі час я не працавала, пакуль Жэня не ўладкаваў мяне ў «Мінскую праўду» падчытвай. Літаральна праз два тыдні, калі паглядзелі, што я хораша вычытваю і праўлю, далі мне правесці карэктуру і пасля таго перавялі ў карэктары. Потым перайшла ў выдавецтва «Звязда», дзе адразу далі вышэйшую катэгорыю. Гэта праца ў мяне атрымлівалася.

Якраз тады з'явілася газета «Кинонеделя Минска», куды мяне неўзабаве запрасілі. Друкавала на машынцы, рабіла вычыткі, займалася падрыхтоўкай матэрыялаў, некаторыя пісала сама. І такім чынам адпрацавала там 21 год!

**— А што ў творчай скарбонцы?**

— Васямнаццаць кніг, два рукапісы ляжаць у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Калі мы з Крупенькам развяліся, пусцілі плётку, маўляў, ён за мяне пісаў вершы!.. Насамрэч, калі б ён і паспрабаваў у нечым дапамагчы, адмовілася б. Усё роўна зрабіла б па-свойму! Але назву маёй першай кніжкі падказаў Жэня. Я спынілася на варыянце «Звяры-будаўнікі», але ён засумняваўся: «Ну, што гэта за назва? Назаві: "Давайце познаёмимся"». Да новай назвы я напісала адмысловы верш. Вось такая мне ад яго памяць засталася…



*Фота Анатоля Калядны.*

*Аўтограф для юнай чытачкі.*

**— Выбачайце, але чаму вы разышліся з Яўгенам Крупенькам?**

— Па-першае, крыўда... Жэня аднойчы сказаў: чалавек павінен пасадзіць дрэва, пабудаваць хату і выгадаваць сына. Я хвалявалася і, ведаеце, вельмі, вельмі засмуцілася: што, калі я ніколі не нараджу дзіця?.. А па-другое, падумала: Жэня — такі добры паэт, друкуецца ва ўсіх часопісах, у яго ўжо імя, член Саюза пісьменнікаў — раптам я зраблю яго няшчасным?.. Узяла і падала на развод.

Незамужняй прабыла нядоўга. З Мікалаем (Мікалай Іванавіч Перуноўскі — другі муж паэткі. — **Т.Б.**) жывём разам з 1964 года… Пазнаёміліся дзякуючы маёй сястры. Яна паклікала адойчы ў парк, і мне там так спадабалася, што вырашыла пасля яшчэ схадзіць, хоць раней нікуды адна не выходзіла. На самай першай лавачцы сядзеў малады мужчына. Глянула — і ён глянуў. Мне так спадабаўся ягоны твар! Прайшлася па дарожцы, вярнулася, і нейкая сіла, хоць я была гордая, прымусіла сесці на другім канцы. Праз нейкі час ён наблізіўся, завёў размову і запрасіў у кіно.

**— Ніна Васільеўна, як нараджаюцца вашы вершы?**

— Бывае так: быццам рэпартаж з месца дзеяння пішу. Прыкладам, верш «Гора-стралок». Вясна, сонца, зеляніна, птушкі… Я іду шчаслівая, насустрач — дзеці. Ідуць, здаецца, спакойна. Раптам адзін хлопчык суне руку за пазуху, і ў ягоных руках рагатка!.. Азірнулася — з дрэва птушка падае!

*Як куля, каменьчык*
*З рагаткі ляцеў.*
*Ах, як прамахнуцца*
*Сяргей не хацеў!..*
*З галінкі бярозы*
*Упаў верабей.*
*Ён зведаў і холад,*
*І сцюжу завей.*
*Галодны, халодны,*
*Як след не заснуў,*
*Ледзь-ледзь прычакаў*
*Бедалага вясну.*
*Пад сонейкам веснім*
*Ажыў, ачуняў*
*І мёртвы з галінкі зялёнай*
*упаў.*

Тэмы шукаю, але перш за ўсё пішу пра тое, што хвалюе. Прыкладам, «Крылатыя дружбакі» — як бусел вярнуўся з выраю, а дрэва ўжо няма, знесена… Ніколі не адштурхоўваюся ад чужых твораў. Напрыклад, калі пішу пра луг, то пра той, па якім гуляла ў дзяцінстве. Пішу пра дзіцячае, што ўва мне засталося.

**— Чаго, на вашую думку, бракуе сучаснай дзіцячай паэзіі?**

— Сёння мала пішацца пра тое, як трэба беражліва ставіцца да кветкі, да птушкі, да кожнай жывой істоты, каб дзіця не кідала ў іх камень. Каб мела павагу да людзей. Трэба навучыць дзяцей назіраць прыроду, заўважаць дробязі: як вясною завязваецца маладая лістота, нараджаецца і глядзіць на сонейка… Трэба навучыць дзяцей правільна хадзіць па зямлі…

*Жыву я з прыродай у згодзе,*
*Яе адчуваю душой,*
*Бяда на яе надыходзіць —*
*На сэрцы маім неспакой.*
*Я мысленна з ёй размаўляю,*
*І чую бязгучны адказ:*
*Што сэрцам, душой*
*успрымаю,*
*Запісваю, дзеці, для вас…*

**Тамара БУНТА**

# Роздумы пра Бакста: чалавек і творца

**Час можна спыніць, пра лёс расказаць, а творчасць увекавечыць — досыць змясціць усё гэта ў кнігу. Прэзентацыя выдання «Леў Бакст: жыццё пяром Жар-птушкі», якая была падрыхтавана ў выдавецтве «Чатыры чвэрці» і пры падтрымцы «Белгазпрамбанка», прайшла 3 сакавіка ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь. Аўтар, Уладзімір Шчасны, не ставячы задач зрабіць мастацтвазнаўчае даследаванне, напісаў пра знакамітага мастака-мадэрніста, сцэнографа і дэкаратара, ілюстратара і заканадаўцу мод даступнае шырокаму колу чытачоў, свабоднае ад навуковых норм эсэ-роздум.**




Кнігі выдавецтва «Чатыры чвэрці», сярод якіх — «Леў Бакст: жыццё пяром Жар-птушкі».

У кнізе гарманічна перапляліся асабістыя ўражанні стваральніка, аналіз асобы чалавека і творцы, які стаў кумірам сваёй эпохі, а таксама гістарычныя факты і біяграфічныя дадзеныя. Ніводнай кнігі пра Бакста, напісанай так проста і цікава, дагэтуль не было, таму Уладзімір Шчасны вырашыў стаць першаадкрывальнікам.



Уладзімір Шчасны прадстаўляе сваё новае выданне.

Твор Уладзіміра Шчаснага — гэта якасная публіцыстыка ад стваральніка кнігі «Мастакі Парыжскай школы з Беларусі», куратара і натхняльніка выставак «Дзесяць вякоў мастацтва Беларусі», а таксама экспазіцыі «Час і творчасць Льва Бакста», з якой да сярэдзіны красавіка можна яшчэ пазнаёміцца ў музеі. Галоўная мэта новага выдання — даказаць, што выхадцы з Беларусі ўнеслі прыкметны ўклад у развіццё агульнасусветнай культуры.

Уладзімір Шчасны рыхтаваў кнігу ў хуткім тэмпе, акурат да адкрыцця ў Мінску выстаўкі, прысвечанай мастаку, але здолеў прааналізаваць мноства крыніц, прычым, і арыгіналы — на англійскай і французскай мовах. У выданне трапілі ўспаміны як самога Льва Бакста, так і іншых знакамітых мастакоў, з якімі ён сябраваў і супрацоўнічаў.

Уласныя даследаванні прывялі Уладзіміра Шчаснага да цікавага адкрыцця. Аказваецца, у гродзенскага творцы, які праславіўся ў Расіі, Еўропе і Амерыцы, тры прозвішчы ад дзеда, бацькі і бабулі — Розенберг, Рабіновіч і Бакстэр. Апошняе, скарочанае да Бакст, дарэчы, паходзіць ад мястэчка Бакшты, што знаходзілася ў Віленскай губерніі, а цяпер — частка Гродзенскай вобласці. Знойдзены таксама ўнікальны партрэт бацькі мастака, Самуіла.

Чаму ж кніга дазваляе захаваць творчасць Бакста, наблізіць яго да людзей? На старонках аддрукаваных самыя яркія творы аўтара з калекцыі «Белгазпрамбанка», якія застануцца ў нас пасля таго, як выставачныя працы «разбягуцца» па музеях розных краін. Акрамя тэксту, у кнізе змешчана шмат дакументальных фотаздымкаў, на якіх можна пабачыць, як выглядала інтэлігенцыя, багема бакстаўскіх часоў.

У пачатку эсэ Уладзімір Шчасны распавядае пра месца, дзе з'явіўся на свет маленькі Лёвушка, — Гродна сярэдзіны XIX стагоддзя. Няпростая абстаноўка панавала ў горадзе. Калісьці ён быў сталіцай Рэчы Паспалітай, затым ператварыўся ў ціхі губернскі цэнтр на ўскраіне Расійскай імперыі... Да пачатку 60-х гадоў Гродна выглядаў вельмі ажыўлена. На вуліцах гучалі ідыш, польская, руская, беларуская мовы, а каталіцкія храмы суседнічалі з праваслаўнымі. Але самае цікавае было наперадзе. Гудок першага паравоза, які прыбыў на станцыю Гродна, абвясціў пра надыход у гэтым краі прамысловай рэвалюцыі, а потым — моды на эклектыку ў выяўленчым мастацтве, прагу да эстэтыкі. Усё гэта Уладзімір Шчасны тлумачыць вельмі паэтычна, але дакладна. Аўтар спачатку папярэднічае нараджэнню вялікага мастака, нібы стварае для яго мізансцэну, рыхтуе дэкарацыі, а потым ідзе за ім па пятах, нібы таленавіты апаратар, выхопліваé з жыцця самыя яскравыя моманты, нечакана мяняе ракурсы, адхіляецца ад галоўнай лініі сюжэта, але ніколі не адыходзіць ад логікі.

«Творы мастацтва станавіліся элементамі стылю жыцця». На арэну выходзіў мадэрн. Апошнія дзесяцігоддзі XIX і пачатак XX стагоддзя ў Еўропе сталі *Belle Epoque* (выдатнай эпохай), а Леў Бакст — адным з яе сімвалаў, «сведкам яе зараджэння і згасання».

Шкада, што Уладзімір Шчасны не здолеў здабыць інфармацыю пра тое, дзе канкрэтна жыў мастак у Гродне і колькі яму было гадоў да таго, як дзед павёз сям'ю ў Пецярбург. Эсэіст упэўнены, што кніга — гэта толькі даведнік, які натхняе на далейшыя пошукі. Тым не менш аўтар прыводзіць амаль сенсацыйныя факты (мабыць, яны і вядомы мастацтвазнаўцам, але яўна не большасці людзей). Уладзімір Шчасны кажа, напрыклад, пра тое, што Бакст, і без таго адораны чалавек, быў яшчэ і таленавітым літаратарам, выдатна валодаў словам. Не раз згадвае аўтар аўтабіяграфічны раман мастака «Жорсткае першае каханне», дзе гаворка ідзе не толькі пра трагічную сувязь юнака з французскай актрысай, але і аблічча Пецярбурга на мяжы стагоддзяў. Выклікаюць неверагодную цікавасць і гісторыі пра тое, навошта малады Лёвушка пайшоў з Пецярбургскай акадэміі мастацтваў, чаму яго называлі «наваспечаным Рубенсам» і хто быў яго лепшым настаўнікам...



Міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч і Уладзімір Шчасны на выстаўцы «Час і творчасць Льва Бакста» — пасля прэзентацыі.

Фота Анатоля Шчыракова.

Уладзімір Шчасны рухаецца крок за крокам — ад нясмелых творчых пошукаў майстра, яго дэбютных спроб у жывапісе да першых поспехаў. Нібы абачлівы псіхолаг, аўтар кнігі перадае пачуцці, якія наведвалі Льва падчас раздарожжаў лёсу, калі ён, напрыклад, не прымаў акадэмізм, але яшчэ не ведаў новых стыляў, не мог справіцца з трагічным каханнем, пабачыць сына, вярнуцца ў Расію...

Пасля першага вялікага падарожжа-натхнення, калі Бакст наведаў Францыю, Германію, Іспанію, Італію ў 1891 годзе, кніга пераносіць у атмасферу мастацкай суполкі «Свет мастацтва», заснавальнікам якога быў як Аляксандр Бенуа, так і Сяргей Дзягілеў. Шмат увагі надаецца легендарным «Рускім сезонам», дзейнасці Бакста як стваральніка экскізаў дэкарацый і касцюмаў да балетаў — ад «Сэрца маркізы», «Феі лялек», «Дафніса і Хлоі» да «Клеапатры», «Шалёнай маладосці», «Шахеразады»... Нядзіўна, бо такім яго ведаюць больш, чым, напрыклад, выдатнага партрэтыста.

Але да гэтага было знаёмства Льва з Валянцінам Сяровым, якое перарасло ў добрае сяброўства, заробкі кніжнай графікай, трэніроўкі ў тэхніцы акварэлі і ператварэнне сціплага юнака ў... маладога чалавека, які мог закружыць галаву любой даме. Хоць, як мяркуе Уладзімір Шчасны, стваральнікам дэталёвы партрэт Бакста, рэпутацыя лавеласа была толькі «шлемам ад колкасцяў», бо на той час загана лічылася абаяльнай.

Чаму Бакст некалькі гадоў займаўся толькі партрэтамі? У якога з фінскіх мастакоў ён запазычыў свой знакаміты французскі шык у тэхнічным выкананні? У якім часопісе і калі ўпершыню выйшаў артыкул, дзе Леў згадваўся як таленавіты малады мастак? На ўсе гэтыя і многія іншыя пытанні адказаў Уладзімір Шчасны.

У яго эсэ амаль на кожнай старонцы пануе атмасфера бакстаўскага часу — маладосці, запалу да мастацтва, жадання бясконцай дзейнасці, унутраных канфліктаў, рашучых учынкаў... Гэта не манатонны аповед пра жыццё, а насычаная падзеямі, сустрэчамі, узлётамі і падзеннямі, захапленнямі, марамі і расчараваннямі дакументальная кінастужка. Дарэчы, яшчэ адно сенсацыйнае адкрыццё для чытачоў: «Дажывi мастак да трыццатых гадоў мінулага стагоддзя, калі Галівуд стаў фабрыкай мрояў дзякуючы небывалай папулярнасці музыкальных фільмаў, магчыма, ён пераключыўся бы на кінематограф». Уладзімір Шчасны не проста так прыходзіць да гэтай высновы і нават параўноўвае Бакста з Хічкокам...

Аўтар кнігі знаёміць чытачоў з характарамі, лёсамі людзей, што былі побач з Бакстам, уплывалі на яго жыццё: ад ужо згаданых Бенуа з Дзягілевым да Зінаіды Гіпіус і Любові Грыцэнка, жонкі мастака.

Асобнымі тэмамі ў кнізе — Бакст-партрэтыст, педагог, заўзяты падарожнік і... філасоф-празорца. Цікава разважае Уладзімір Шчасны пра самыя знакамітыя яго карціны (шмат іх змяшчае выстаўка). Першае па таямнічасці — палатно «Старажытны жах», што нарадзілася пасля паездкі ў Грэцыю. Марская хвалі ў навальніцу і людская паніка як прадчуванне будучых перамен, а на пярэднім плане — Афрадыта з усмешкай, што сімвалізуе неўміручасць жаноцкасці, мастацтва.

У касцюмах Бакста фарсілі знакамітыя танцоўшчыцы Іда Рубінштэйн, Ганна Паўлава, Тамара Карсавіна... Уладзімір Шчасны зазначае самую, напэўна, галоўную «фішку» ад мастака — падкрэсленыя эратызм, шыкоўнасць і адначасова, як ні дзіўна, лаканічнасць. Як гэта яму ўдавалася? Жыццё, у якім гарманічна сышліся амаль усе фарбы, — гэта пра Бакста. Яго творчасць цяпер, дзякуючы стваральнікам кнігі і выстаўкі, — і наш здабытак.

Гэтая кніга не дае адказаў на ўсе пытанні, але яе можна выкарыстоўваць як энцыклапедыю. Калі чалавек прачытае і вырашыць паглыбіцца ў гісторыю рускіх балетаў ці «Свету мастацтва», тут ёсць спіс літаратуры. Галоўная задача эсэ, на думку Шчаснага, — расказаць пра Бакста ўсебакова, бо многія ведаюць яго толькі як выдатнага сцэнографа.

Марыя ВОЙЦІК

# Жанчыны крочаць

**У іх вачах адкрытае мора, а за плячыма — зброя. Яны ўмеюць шчыра кахаць, марыць, але і разважаць упэўнена, цвёрда. Жывуць надзеямі, хоць і ведаюць, што самае каштоўнае — учынкі. Не залежаць ні ад каго, бо ў іх унутры — цэлы сусвет са сваімі галактыкамі. Размова ідзе пра сучасных беларускіх жанчын-паэтак. Нарэшце мы ўбачылі многіх з іх у адным месцы, у адзін час, не схаванымі за радкамі.**

Фатограф Іван Бесер прэзентаваў выстаўку партрэтаў «Адбітак» у Літаратурным музеі Петруся Броўкі. Гэта першая частка вялікага праекта. Аўтар задаўся мэтай адлюстраваць мовай фатаграфіі тое, што адбываецца ў літаратурным працэсе Беларусі зараз, а менавіта так званую жаночую паэзію, яе выгляд у прамым сэнсе. На фатаграфіях — 14 паэтак, а побач — адзін з улюбёных вершаў кожнай. Усё лагічна: глядзім у вочы, чытаем думкі.

Іван Бесер здымае жанчын так, як іх бачаць людзі, як адчуваюць сябе яны самі. Паспяховы вынік залежыць не ад фотагенічнасці, удала расстаўленага святла, добра падабранай кампазіцыі і антуражу, а ад умення фатографа зразумець тое, што жанчына адчувае ў пэўны момант. Псіхалогія найлепшага гатунку.

Цікава, што партрэт кожнай з удзельніц праекта зроблены менавіта так, як фатограф зразумеў і ўспрыняў напісаныя імі творы. Выходзіць, адно адлюстроўвае другое. Мы бачым Вольгу Гапееву, Сабіну Брыло і Раісу Баравікову, Людмілу Рублеўскую і Таню Светашову, Юлю Цімафееву і Кацярыну Марголь, Таццяну Нядбай і Насту Кудасаву. Уважліва глядзіць на нас Ліна Казакова і ўпэўненым голасам кажа пра тое, што трэба быць моцным, нягледзячы на абставіны. Аксана Спрынчан разважае пра кругі на вадзе, што разыходзяцца, як жыццё, Вера Бурлак — пра аблокі ў форме неакрэсленых думак. Анка Упала іранізуе ў адкрытую. Як і Марыйка Мартысевіч, што параўноўвае стварэнне жыцця з шынкаваннем капусты.

Прызвычаіўшыся да стандартнай «уступнай кампаніі», якая складаецца з афіцыйнага прывітання, наведвальнікам экспазіцыі давялося здзівіцца. Выстаўка стартавала з інтэрактыўнага перформансу ад Веры Бурлак і Віктара Жыбуля. Уся зала ўцягнулася ў «ручную творчасць». З кавалачкаў паперы (з выявай частак цела прыгажунь розных эпох і народаў) складалі, нібы пазл, сучасную жанчыну, а з рандомных радкоў вершаў гераінь вечара стваралі яе гісторыю. Напэўна, можна правесці аналогію з тым, што кожны з нас — творца свайго лёсу і не трэба забываць карыстацца гэтым.



Ліна Казакова.

«Адбітак» — гэта проста памяць, праект, пазбаўлены ідэалагічнай мітусні, не загнаны ў межы класіфікацый. Няважна, на якой мове пішуць аўтаркі, у якога бога вераць ці не вераць увогуле, колькі ім гадоў і кім працуюць. Іх аб'ядноўвае адно — талент, а таму асаблівае адчуванне свету. У Івана Бесера добра атрымалася гэта паказаць. Якім будзе падаўжэнне праекта? Аўтар пакуль што не раскрываў таямніцу. Мабыць, мы пазнаёмімся з тымі месцамі і вобразамі, якія хвалююць паэтак у іх вершах, а мабыць, — увогуле з нечым абстрактным, але вельмі філасофскім. Чакаем!

**Марыя ВОЙЦІК**

*Культурны ракурс*

# «Вясёлы шляхцюк»

Васіль Грыбоўскі-Гурыновіч з амплуа вядучага, што праводзіць святы ў старадаўнім стылі, ужо амаль не расстаецца. Жупан, пояс, сабаліная шапка, шабля — тое, што адрознівае сапраўднага шляхцюка! Аднак акрамя знешніх атрыбутаў яго вылучае годнасць, уменне весці старасвецкую гутарку з уласцівым ёй каларытам. Сядзіба Адама Хмары ў мястэчку Сёмкава, што недалёка ад Мінска, надзвычай удала імпануе «Вясёламу шляхцюку». Колішні ўладальнік сядзібы мінскі ваявода Адам Хмара запомніўся нашчадкам за сваё добрае стаўленне да падданых, яго называюць не інакш як «мудрым кашталянам». Напамінам пра часы яго кіравання ў мястэчку дагэтуль стаіць мураваная сядзіба.

Сёмкава вядома з XVI ст. Першымі ўладальнікамі мястэчка, якія калісьці пабудавалі тут драўляную рэзідэнцыю, была сямейная пара Багдана Статкевіча і Алены Саламярэцкай. Яны сталі вядомымі тым, што надзвычай шчодра ахвяравалі свае грошы на будаўніцтва манастыроў і храмаў. У розныя часы Сёмкава належала розным шляхецкім родам, у тым ліку Сапегам, якія ў 1755 годзе перадаюць яго свайму служачаму Адаму Хмару. У другой палове XVIII ст. гаспадар пачаў будаўніцтва каменнага палацавага комплексу, які паўстаў у стылі класіцызму. Архітэктарам шыкоўнага палаца мог быць знакаміты італьянскі дойлід Карла Спампані.



У 1780 годзе Міхал Дудзінскі нават напісаў паэму пра гэтыя мясціны, якая так і называецца: «Палац у Сёмкаве». Вось якімі паэт убачыў шляхецкія ўладанні: «Адкуль на той гары, парослай крапівою, узнёсся дужы гмах імгненна над зямлёю? Мо гэта Амфіён зрабіў, каб заскакалі пад ліры спеў усе каменні, што тут спалі. Абчэсаныя ўсцяж адны пайшлі ў аснову, другія ў сцяну складаліся стылёва. А можа, тут Арфея скрыпка заіграла, з якой такая моц, энергія сплывала...»

**Ніна ЛІСТОТА**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* **lim_new@mail.ru** *з пазнакай* **«Культурны ракурс»** *— лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*


**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**





**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51



Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 10.03.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1935.

Кошт у розніцу — 4100 рублёў

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 982

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12




ISSN 0024-4686